# ЛіМ ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

ГАЗЕТА
ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ
БЕЛАРУСІ

19 СТУДЗЕНЯ 1996 г. № 3 (3827) Кошт 2 500 руб.






*На студзеньскім прыгрэве*

Фота А. МАЦЮША.

# КАЛІ НЯМА ГОДНАСЦІ...

Калі чалавек абыякавы да ўласнага лёсу, то да яго абыякавы Бог. Ніхто не стане дбаць пра ягоныя інтарэсы, калі гэтага ён не зробіць сам. Больш таго, нават станоўчыя змены ў навакольным свеце могуць асабіста для яго абярнуцца новымі бедамі і дурнымі клопатамі.

Возьмем прыклады з найноўшай гісторыі Беларусі. Скончылася "халодная вайна", савецкія салдаты пакінулі Германію. А да гэтага Савецкая Армія развіталася з Венгрыяй, Польшчай, Чэхіяй... Цудоўна! Але... немалая частка выведзеных з тэрыторый колішніх сатэлітаў Савецкага Саюза войск асядае ў Беларусі. І наша рэспубліка, маючы невырашальную праблему перасялення з Чарнобыльскай зоны, атрымала новы клопат — тысячы неўладкаваных афіцэраў. Праз нейкі час, пасля распаду СССР, яны аўтаматычна сталі грамадзянамі Рэспублікі Беларусь, застаўшыся ненавіснікамі нашай незалежнасці, бо для іх гэта — "нацыяналізм". Той самы "нацыяналізм", які "разбурыў вялікую краіну", а іх пазбавіў камфортнай, добра аплачваемай службы за мяжою і мноства прывілей, якія мелі вайскоўцы ў Савецкім Саюзе. Гэта яны і ім падобныя галасавалі за камуністаў на выбарах і адказвалі "так" па ўсіх чатырох пытаннях "рэферэндуму".

Пазбаўленне КПСС манаполіі на ісціну зрабіла магчымым аднаўленне справядлівасці ў адносінах да рэлігіі. І што мы бачым? Касцёл разгарнуў прапаганду на карысць Польшчы і пальшчызны, праваслаўная царква — за "единую неделимую". Варагуючы паміж сабою, гэта крэатура Польшчы і Расіі знаходзіць згоду, калі трэба выступіць супраць беларушчыны і яе правоў. І касцёл, і праваслаўная царква ў роўнай ступені ненавідзяць уніятаў, чыя рэлігія мае ў аснове беларускі патрыятызм. Касцёл і царква патрабуюць назад сваю колішнюю маёмасць, будынкі, і ўлады вяртаюць, выкідваючы на вуліцу музеі і іншыя культурніцкія ўстановы. Так было з музеем рэлігіі і атэізму ў Гродне, музеем народных рамёстваў у Заслаўі. Невядома, што чакае музей у Раўбічах і канцэртую залу ў Полацкай Сафіі. Рэлігія адраджаецца — культура беларуская гібее...

Добрая справа — рынак. Нікуды не падзенешся, будуць рынкавыя стасункі і ў галіне культуры. Канкурэнцыя будзе вызначальнай і тут. Інакш быццам нельга. Але першай ахвярай рынку ў нашых умовах становіцца беларуская культура, беларуская лтаратура, прэса. Францыя — вялікая дзяржава, краіна вялікай культуры спецыяльным заканадаўствам абараняе французскую мову ад іншаземных уплываў. Прэзідэнт і ўрад клапоціцца аб традыцыйных французскіх каштоўнасцях. І гэта ва ўмовах класічнага капіталізму, рынку, канкурэнцыі. У нас жа рынак — апраўданне гвалту над нацыянальнай культурай, мовай, беларушчынай увогуле.

Плюралізм — дзіця "перабудовы" — таксама добрая рэч. Чалавек можа гаварыць тое, што думае, не баючыся рэпрэсій, і гэта цудоўна! Але цудоўна толькі для тых краін, дзе межы магчымага вызначаны грамадскай мараллю. Калі маралі няма, тады плюралізм — гэта не так прыгожа. У Польшчы, Расіі, Жамойці, на Украіне чалавек, які ўголас разважаў бы пра тое, ці ёсць такая дзяржава Польшча (Расія, Жамойція, Украіна) і адлаведна польскі (расійскі, жамойцкі...) народ, не толькі не зробіць палітычнай кар'еры, але будзе яшчэ мець клопат пра ўласную бяспеку. У нас жа сумнявацца ў існаванні беларускага народа, абражаць беларускую дзяржаўнасць, бел-чырвона-белы сцяг і "Пагоню" лічыцца плюралізмам.

Добра, калі шануюцца інтарэсы нацыянальных меншасцей, але не за кошт карэннага народа, які даў назву краіне. Калі госць у чырвоным куце, а гаспадар пад лаўкай — гэта абсурд. Альбо акупацыя.

Падзел улады паміж парламентам і прэзідэнтам у цывілізаваным свеце служыць стабільнасці грамадства, не дазваляючы ні тому, ні другому надта "цягнуць на сябе коўдру", забывацца на краіну за клопатамі пра асабістае. А што робіцца ў нас? Адказ — вядомы...

Што ж мы за народ такі, калі на нашай глебе з семя добрых ідэй вырастае пустазелле?

А што яшчэ, даруйце, можа вырасці на глебе беларускай рахманасці, спагадлівасці, талерантнасці, калі за імі няма чалавечай годнасці, цвёрдасці характару і прынцыповасці?

**Пётра ВАСІЛЕЎСКІ**

Варункі

***Сёння "ЛіМ" адкрывае на сваіх старонках новую рубрыку — "Варункі". Весці яе будзе вядомы малады крытык, літаратуразнаўца, дырэктар музея Максіма Багдановіча — Алесь Бяляцкі. Знаёмцеся...***

Алесь БЯЛЯЦКІ



## ЯК Я ПАЧАЎ РАЗМАЎЛЯЦЬ

На пачатку 80-ых, яшчэ студэнтам, я выбраўся ў падарожжа па Беларусі, каб пераканацца — ці не ўмерла яшчэ беларушчына на гэтай зямлі. Я быў прыемна здзіўлены — і пад Калінкавічамі, і ў Камянцы, і пад Баранавічамі, і пад Гродняй — жыве!

Гаварылі шмат і добра, не надаючы гэтаму значэння — гаварылі, як дыхалі, як жылі.

А я ўжо выхоўваўся ў іншамоўнай сям'і. Калі прыязджаў з горада ў вёску, цёткі, смеючыся, падладжваліся пад мяне і крыўляліся па-расійску. Змяніць нацыянальную свядомасць, нацыянальную і культурную арыентацыю можна за адно пакаленне. Я спазнаў гэта на сабе. Але да беларушчыны цягнула.

Праўдзівы шок адбыўся ў мяне ў тую вандроўку пад Стоўбцамі. Цягаючыся па коласаўскіх маляўнічых мясцінах, я натрапіў на аўтобус "Кубанец", каля якога з выгодаю размясціліся, галёкаючы паміж сабою, тры сапраўдныя мастакі. Яны замалёўвалі прынямонскія краявіды.

Я падышоў бліжэй з цікавасці, паглядзець і... здранцвеў. Яны гаварылі па-беларуску! Зразумела — калі нашыя універсітэцкія выкладчыкі, якія, выходзячы з аўдыторыі, адразу ж пераходзілі на расійшчыну. Гэта быў іхні хлеб. Спрабаваў размаўляць і я са сваімі сябрамі, але далей жаданняў справа не ішла, і больш аднаго дня мы не вытрымлівалі — збіваліся.

Гэтыя ж, пэўна, нічога з гэтага не мелі і гаварылі свядома, бо, ясная справа, не з вёскі ж яны прыехалі сюды маляваць.

Мы пазнаёміліся. Я назваўся: "Саша". "А-а-а, Алесь!" — упэўнена перайначылі яны.

Убачыўшы бляск у вачах, мяне захапілі ў Мінск. Такім чынам, Мікола Купава, апроч сваіх вядомых гравюр да 100-х угодкаў Якуба Коласа, прывёз на спатканне з групкаю мінскай беларускай моладзі яшчэ аднаго гомельскага юнака.

На ноч мяне размясцілі ў мастацкай майстэрні на другім паверсе, сярод карцін і фарбаў. Ужо лежачы на цвёрдай канапе, у прыцемку я ўзяў з паліцы кніжку ў мяккай сінявата вокладцы і разгарнуў "Рунь" Гарэцкага. Сапраўдных старых беларускіх кніжак дагэтуль у руках я яшчэ не трымаў.

(Зусім нядаўна Валодзя Сулкоўскі, смеючыся, згадваў пра гэтую начоўку ў ягонай майстэрні.)

Удзень мяне звялі з Вінцуком Вячоркам. Ён прывёў мяне на кватэру да сябе, дзе ўжо чакалі два Сержукі — Сокалаў і Запрудскі. Праз тры гадзіны размовы, падчас якой я сарамліва хаваў свае падраныя за месяц вандраваннняў шкарпэткі, справа была зробленая.

Як намагнічаныя часцінкі, зліпаліся мы ў невялікія асяродкі, дапамагаючы адзін аднаму.

З тых часоў я заўсёды і паслядоўна размаўляю па-беларуску. Не таму, што маю з беларускае мовы хлеб, а таму, што стаў урэшце нармальным беларусам і спрабую захаваць і абараніць гэтую сваю нармальнасць.

# НІВОДНАГА СЛОВА АБ ТЫМ...

***17 студзеня, у сераду, Беларусь з афіцыйным візітам наведаў прэзідэнт Казахстана Н. Назарбаеў. Ён сустрэўся і правёў перамовы з прэзідэнтам Беларусі А. Лукашэнкам, падпісаў разам з ім дагавор аб дружбе і супрацоўніцтве паміж нашымі краінамі, некаторыя іншыя дакументы.***

***У святле гэтага візіту нашым чытачам, думаецца, будзе асабліва цікава пазнаёміцца з думкамі прэзідэнта Казахстана адносна тых праблем, пра якія наша кіраўніцтва гаварыць не любіць, а калі і гаворыць, дык нешта зусім адваротнае, чым нядаўні высокі госць Беларусі.***

**— І тут, у Казахстане, і ў Маскве я чуў тэрмін "аказашванне": гэта калі на чале рускага горада ў Паўночным Казахстане чамусьці ставіцца казах.**

— Гэтае пытанне звычайна пачынаюць падымаць перад вялікімі палітычнымі кампаніямі. Гэтая тэма вялікай гістарычнай, стратэгічнай важнасці — быць Расіі і Казахстану, рускаму і казахскаму народам разам ці не быць? Кажу шчыра, сумленна, без усялякай азіяцкай хітрасці, што Богам нам дадзена жыць на адной тэрыторыі, мець агульныя межы, быць добрымі суседзямі. Стагоддзямі ішло пранікненне культур з Казахстана ў Расію, ад Расіі да нас.

Дзякуючы рускай мове казахі атрымалі вялікія веды ў галіне навукі і тэхнікі ў свеце. Сённяшні інтэлектуальны патэнцыял, тыя 30—35-гадовыя хлопцы з маскоўскай, ленінградскай адукацыяй, якіх мы вылучаем у кіраўніцтва, сталі класнымі спецыялістамі з дапамогаю рускіх. Таму я не разумею, хто падказаў вам гэтае пытанне.

**— Прыходзяць пісьмы...**

— Пісьмы гэтыя рыхтуюцца спецыяльнымі арганізацыямі, якія створаны ў Маскве. Калі мы з Ельцыным падпісалі пагадненне аб тым, што працэдура змены грамадзянства жыхароў Расіі і Казахстана стане спрошчанай, дык асобныя народныя дэпутаты рускай нацыянальнасці з Казахстана паехалі ў Думу прасіць не ратыфікоўваць гэтую дамову. Ну што гэта такое? Гэта справа "вечна ўчарашніх", якія ўмеюць паказаць сябе толькі ва ўмовах канфрантацыі, таму што толькі ў гэтых умовах яны могуць быць "важнымі" людзьмі.

**— Вы хочаце сказаць, што рускія ў Казахстане дыскрымінацыі не падвяргаюцца?**

— Мяркуйце самі: з 21 міністра 9 — не казахі. З 8,5 тысячы школ у Казахстане 5 тысяч — рускія. З 19 кіраўнікоў абласных адміністрацый 7 — не казахі. Насельніцтва Казахстана такое: 50% — казахі; 32% — рускія; немцаў, украінцаў, уйгураў і ўзбекаў разам узятых — 10%, і 8% увабралі ў сябе прадстаўнікі іншых народаў і нацый. Скажыце, якая рэспубліка былога Савецкага Саюза ў кожнай сваёй вобласці мае рускі драматычны тэатр? У якой рэспубліцы 70% усіх сродкаў масавай інфармацыі выкарыстоўваюць рускую мову? Я таксама атрымліваю масу пісьмаў ад мільёна казахаў, якія жывуць у Расіі. Яны скардзяцца, што ў Расіі няма казахскіх школ.

Канстытуцыя Казахстана дае аднолькавыя правы ўсім. Мы не лічым, што трэба абараняць казахаў. Калі нехта з казахаў парушае закон у Расіі, дык чаму мы павінны іх абараняць? Гэта ж прамое ўмяшальніцтва ва ўнутраныя справы дзяржавы! Але і ў нашы справы не трэба ўмешвацца.

**— Ці не здаецца вам, што нацыянальныя, тэрытарыяльныя праблемы будуць вырашаны, калі Расія, Казахстан, Беларусь, Украіна зноў аб'яднаюцца?**

— Расійская палітыка ў дачыненні да краін СНД мне далёка не ва ўсім зразумелая. Незразумелы, напрыклад, нядаўні ўказ прэзідэнта Ельцына аб стратэгічных мэтах Расіі ў СНД. Вы не знойдзеце ў ім ніводнага слова аб тым, што ўсе мы роўныя, што ўсе мы ў рэшце рэшт браты, таму што пражылі разам у адной краіне сотні гадоў. А ёсць словы: абараняць будзем кагосьці (не ведаю, ад чаго), будзем аказваць эканамічны ціск (на каго?) і такім чынам будзем ахоўваць інтарэсы Расіі.

Але мы хіба супраць інтарэсаў Расіі? Незразумела, напрыклад, навошта трэба, каб расійскія вугаль, нафта, каляровыя металы канкурыравалі з казахскімі на сусветных рынках. Чаму казахстанская нафта не можа транспартавацца за мяжу па расійскіх нафтаправодах? За кожную ж тону нафты Расія атрымлівае грошы!

**— Расійскі ўрад шмат у чым страціў кіраванне дзяржавай, сям-там на месцах уладу захапілі мафіёзі, а ім на дзяржаўныя інтарэсы напляваць.**

— Магу толькі сказаць, што ў нас з Расіяй заключаны 44 пагадненні, але мала якія з іх працуюць! Такія ж самыя справы і ў іншых дзяржавах СНД. А пасля ў Расіі здзіўляюцца, чаму гэта Узбекістан, Азербайджан, Казахстан шукаюць альтэрнатыўныя шляхі развіцця.

**— Улічваючы такія адносіны расійскага кіраўніцтва, скажыце: ці не ўзнікла ў вас жаданне перайсці "пад крыло" Кітая альбо Турцыі?**

— Я перакананы, што будучыня Казахстана непарыўна звязана з Расіяй. Казахстан не павінен рабіць чаго-небудзь, не ўлічваючы інтарэсаў Расіі. Але і Расія павінна ўлічваць інтарэсы Казахстана і адносіцца да яго як да роўні.

**— Нурсултан Абішавіч, вы для Расіі чалавек не чужы, што вы думаеце пра толькі што праведзеныя ў нас выбары?**

— Думаю, дарэмна палова месц у Думе аддадзена партыйным фракцыям. Таму што ні ў вас, ні ў нас няма партый з сур'ёзнай сацыяльнай базай на месцах. Мы ў Казахстане вырашылі, што кожная партыя будзе вылучаць сваіх кандыдатаў толькі праз аднамандатныя выбарчыя акругі.

Далей. На свае выбарчыя кампаніі вашы партыі затрацілі шалёныя грошы, якія так ці інакш адабраны ў народа, і патрачаны яны не на справу, а на дэманстрацыю кандыдатаў у дэпутаты.

**— А ў чым, па-вашаму, сутнасць дэмакратыі?**

— Дэмакратыя ўстанаўліваецца не ўказамі і дэкрэтамі — яе трэба выпакутаваць. Яна не на словах, яна ўнутры кожнага з нас. Народу трэба даць магчымасць зразумець, што дэмакратыя перш за ўсё ёсць падпарадкаванне законам уласнай краіны.

Мая свабода канчаецца там, дзе я пачынаю наступаць на вашы дэмакратычныя свабоды. Паверце, што мне, былому камуністу, першаму сакратару ЦК, які вырас ва ўмовах таталітарызму, нялёгка было ўспрымаць гэтыя азбучаныя, на першы погляд, ісціны.

*("Аргументы и факты", N 51, 1995 г. З гутаркі спецкара тыднёвіка Дзмітрыя МАКАРАВА з прэзідэнтам Казахстана Нурсултанам НАЗАРБАЕВЫМ).*

# ... І ВЕЧНЫ ІЕРУСАЛІМ

Сёлета спаўняецца 3000 гадоў Іерусаліму — гораду, вобраз якога, на мой погляд, найбольш дакладна ўвасоблены ў вершы ізраільскага паэта Іегудзі Аміхая: "Іерусалім — гэта порт на беразе вечнасці". Роўна год прайшоў з таго часу, як я ўпершыню пачула гэтыя словы — на вечары паэзіі, якім пасольства Дзяржавы Ізраіль адкрыла серыю сустрэч з творчасцю ізраільскіх паэтаў, кампазітараў, мастакоў, пісьменнікаў. Мінулым летам конкурс малюнка беларускіх школьнікаў "Іерусалім вачамі дзяцей", выстаўка жывапісу ізраільскіх мастакоў "І горы вакол яго..." і нядаўні снежаньскі вечар сучаснай ізраільскай літаратуры былі прысвечаны адметнай даце.

Пра творчасць ізраільскіх пісьменнікаў, пра іх розныя пакаленні, пра стылі і накірункі ізраільскай літаратуры расказаў беларускім слухачам саветнік пасольства Ізраіля на Украіне Зеэў Бен-Ар'е, у перакладах якога і прагучалі фрагменты твораў лаўрэата многіх літаратурных прэмій пісьменніка, эсэіста і публіцыста Амоса Оза, вядомага пісьменніка і драматурга Машэ Гаміра. Шуламіт Харэвэн, Іцхак Бен-Нер, А.Б. Егошуа, Савіон Лібрэхт, Аарон Мэггед — вось імёны ізраільскіх пісьменнікаў, з чыёй творчасцю ўпершыню пазнаёміліся наведнікі вечарыны.

Зеэў Бен-Ар'е, журналіст і перакладчык, да ўсяго, цікава, з гумарам успамінаў пра пачатак свайго досведу ў ізраільскай літаратуры, пра розныя стадыі яе ўспрымання. Артысты Марыя Захарэвіч і Валерый Анісенка, як заўсёды глыбока, пранікнёна, памастацку данеслі тэксты самых розных твораў: ад блізкіх па мове і вобразах да свяшчэннага пісання фрагментаў Амоса Оза "На нядобрай зямлі" і "Цар мірскі" Машэ Шаміра да насычаных слэнгам "У пошуках асобы" Шуламіт Харэвэн і "Пан Мані" А. Б. Егошуа.

У калейдаскопе вобразаў і тэм гэтага вечара мне асабліва запомнілася апавяданне Аарона Мэггеда "Яд-Вашэм", у якім гаворка ідзе не пра вядомы ва ўсім свеце іерусалімскі інстытут Катастрофы, а пра чалавечую памяць, пра простую ізраільскую сям'ю, дзе стары Зіскінд спрабуе ўгаварыць унукаў назваць свайго будучага, яшчэ не народжанага праўнука імем загінуўшага ў час вайны любімага ўнука. Гэтае імя не "гучыць" у цяперашнім жыцці, яно адтуль, з мінулага, з краіны, дзе загінулі амаль усе яго шматлікія сямейнікі. "Што звязвае людзей? — пытаецца стары. І сам жа адказвае: — Сувязь — гэта памяць".

Музыка ізраільскіх кампазітараў, што гучала ў выкананні піяністкі Ірыны Целяпнёвай, стала глыбокім і тонкім дапаўненнем да літаратурных вобразаў, якія ажылі ў зале Лінгвістычнага універсітэта. Вечар ладзіўся ў дні, калі яўрэі ўсяго свету адзначалі адно з самых галоўных святаў — Ханука. І старажытны Іерусалім, які нябачна прысутнічаў у зале, дарыў усім нам надзею на мір, шчасце і радасць сустрэч.

**Іна ГУРАРЫЙ**

## "ДРЭВА ЖЫЦЦЯ"




**Такую назву мае насценны каляндар на 1996 год, выдадзены Беларускім Саюзам майстроў народнай творчасці, надрукаваны на Мінскай фабрыцы каляровага друку накладам 10 тысяч экземпляраў. Мастачка Н. Сакалова-Кубай стварыла "дрэва жыцця" ў тэхніцы выцінанкі — старажытнага віду народнай творчасці. А подпіс — дакладней, верш у прозе — зрабіў Валерый Дранчук: "Выцінанка! Слоўка якое! Спеўна-аздобнае, скуль ты ўзялося? Так і карціць прамаўляць па складах, гукамі-трэлямі выгаворваць, падрабляючыся пад салоўку: вы-ці-нан-ка..."**

**Сапраўдным цудам, няйначай, прыйшла ў беларускую хату выцінанка. Ёю найперш аздабляліся вокны, шафкі, партрэты, абразы, палічкі — усё, што было на вачах. Выразаліся выцінанкі з паперы, белай, чорнай ці каляровай. Аркушык складаўся і так і сяк, і проста і мудрагеліста. Затым браліся нажнічкі і малюнак выштукоўваўся адпаведны: квадратам, шматкутнікам, кругам. А ўзор сягаў такіх сфераў Сусвету, што і пераказаць немагчыма; толькі ўдзячны, лагодны позірк здольны ацаніць геніяльную паэтыку старажытнага віду аздобна-ўжытковага мастацтва".**

**Рэдка вешаюць сёння беларусы выцінанкі на вокны. А вось бачыць у сябе ў хаце гэты цуд змогуць многія, калі ў кіёску Саюздруку ці на выставе "Калядныя ўзоры", якая наладжана ў Нацыянальным музеі Беларусі, набудуць гэты каляндар.**

## МАРАЦЬ СТАЦЬ ЖУРНАЛІСТАМІ



**У Гомельскай СШ N 44 ужо трэці год працуе прафіліруючы клас, у якім навучаюцца старшакласнікі, якія мараць аб прафесіі журналіста. Тут, акрамя школьнай праграмы, вучні вывучаюць азы журналістыкі, набываюць навыкі літаратурнай праўкі, вёрсткі газет, работы на камп'ютэры, выпускаюць спецыяльную штомесячную газету на 8-мі палосах.**

***На здымках: ідзе праца над чарговым нумарам "Школьнай газеты".***

***Фота Сяргея ХАЛАДЗІЛІНА, БЕЛТА***

# "МОСТ ДА БЕЛАРУСКАЙ КУЛЬТУРЫ ТРЭБА БУДАВАЦЬ З АБОДВУХ БАКОЎ"

***Даўно мне хацелася сустрэцца з Юрыем ХАДЫКАМ, з якім давялося пазнаёміцца больш за 35 год назад, калі мы абодва вучыліся на фізічным факультэце ў БДУ. Ужо тады я вылучаў яго з іншых грамадска-актыўных студэнтаў паводле высокай моўнай культуры, лагічнасці ягоных прамоў. Прыемна было час ад часу атрымліваць пацвярджэнні сваёй праніклівасці наконт патэнцыі яго развіцця, адзначаючы ступені яго росту: доктар навук, загадчык лабараторыі, прафесар, намеснік Старшыні Сойму БНФ.***

***Магчымасць пагутарыць з Юрыем ХАДЫКАМ з'явілася на семінары па кансерватызме і лібералізме, наладжаным Аб'яднанай грамадскай партыяй, куды мы абодва былі запрошаны, і я яе выкарыстаў, каб у перапынку ўзняць нейкія пытанні аб беларускай мове, бо ў БНФ, мне здаецца, няма больш кампетэнтнага за яго чалавека па гэтай праблеме.***

**— Нядаўна, наўзабаве пасля рэферэндуму, я надрукаваў даволі вялікі артыкул пад назвай "Союз языка и мовы". Калі не чытаў, дык я табе перакажу асноўныя моманты. Мне хацелася прыцягнуць увагу ўсіх рускамоўных да сумнага этапу беларускай мовы: яна гіне, і адказы грамадзян рэспублікі на першае пытанне, вынесенае на рэферэндум, аніяк ёй не ў падтрымку. І я выказваю канструктыўную ідэю: для захавання мовы трэба, каб яна стала агульным клопатам усяго грамадства, а не толькі "свядомых беларусаў", якіх, па некаторых звестках, толькі 15 працэнтаў. І таму часткай вашай праграмы Адраджэння беларускай культуры павінна б быць работа і сярод рускамоўнага насельніцтва, бо і яно нешта страціць, збяднее, калі мова ваша знікне.**

— Чаму "ваша", а не "наша"?

**— Бо родная мова для мяне — руская. Але беларуская мне таксама патрэбная, я яе вывучыў ужо ў сталым узросце, і хацеў бы, каб і далей у мяне была магчымасць чытаць і пісаць, каб было з кім размаўляць па-беларуску... Дык вось, як ты ўспрымаеш мой "канструктыў"?**

— Перш за ўсё невялічкая заўвага: не падабаецца мне такі тэрмін: "рускамоўнае насельніцтва". Мне б хацелася гаварыць аб беларуска- і рускамоўных. Гэта людзі практычна адной культуры. Але зараз яны не ў раўнапраўным становішчы. Рускамоўныя маюць больш магчымасцей у адміністрацыйным плане, прафесійным. Але затое яны ахвяруюць астаткамі сваёй традыцыйнай культуры, становячыся народам без каранёў, без мінулага. БНФ стаіць за тое, каб беларускамоўныя атрымалі тыя ж магчымасці, якія ёсць у рускамоўных. Як гэта можна зрабіць? Толькі праз дзяржаўнасць беларускай мовы. Рэч не аб тым, што руская мова не павінна выкарыстоўвацца. Яна будзе існаваць, пакуль ёсць людзі, для якіх яна самая гучная. Не аб ліквідацыі рускай мовы справа, а аб ліквідацыі таго нераўнапраўя, дзіўнага нераўнапраўя, калі беларускамоўныя беларусы на сваёй зямлі знаходзяцца ў стане амерыканскіх неграў.

**— Заўважу дзеля дакладнасці, што беларусаў у рэспубліцы, па даных ААН, каля 70 працэнтаў, а гэта значыць, што аб 30 працэнтах рускамоўных гаварыць, *што яны — "той самай культуры"*, ніяк нельга. Але гэта не галоўнае. Ці не грунтуецца твая пазіцыя на ілюзіі, што калі нехта там зверху скажа: "З сённяшняга дня на Беларусі пачынаецца монамоўнасць беларуская!" — і ўсё стане як мае быць?**

— Ніякай ілюзіі. Я спашлюся на прыклад Ізраіля. Я сустракаў людзей, якія гаварылі: "Вось там, у Ізраілі, уціск, прыходзіцца іўрыт вывучаць". Але там не адступаюць ад свайго, і ніхто не лічыць Ізраіль недэмакратычнай краінай. Наадварот, чым далей яны развіваюцца, тым больш даюць прыкладаў для астатняга свету. Але яны прымаюць прымус, каб людзі авалодалі іўрытам. Дарэчы, гэта складаней, чым вывучыць беларускую мову.

**— Скажы мне, з якімі мовамі іўрыт суіснуе?**

— З англійскай, рускай, ідыш.

**— Заўваж, усе яны ад іўрыта вельмі адрозніваюцца. У нас жа беларуская і руская — вельмі падобныя, і гэта, як ні парадаксальна, вялікая цяжкасць.**

— Якая ж цяжкасць? Зусім наадварот!

**— Цяжкасць у тым, што неразумення іншых, як стымул для авалодання мовай, — яго ж няма. Рускі з беларусам могуць добра гутарыць кожны на сваёй мове. Вось я і хацеў сказаць: рускім, увогуле рускамоўным, цяжка ўзяцца за вывучэнне беларускай мовы: патрэбы няма.**

— Не патрэба павінна быць, а перакананне на першым месцы.

**— Вось аб гэтым перакананні я таксама хачу сказаць. Існуе ўсяго тры ўсходнеславянскія мовы: руская, украінская і беларуская, і кожная мае сваю непаўторную каштоўнасць. Ці ёсць у БНФ людзі, здольныя раскрыць каштоўнасці беларускай мовы перад тымі, хто мовіць толькі па-руску?**

— Тут ты вельмі правільна гаворыш. Ёсць азы культуры. Безумоўна, беларуская культура не зводзіцца толькі да мовы. Але яна ёсць *масцік да культуры, яе аснова.* Чалавек не здолее асвоіць беларускую культуру ва ўсіх яе праявах, напрыклад, старажытную, не валодаючы беларускай мовай. І мне вельмі смешна чуць, што дзяржаўнасць мовы — гэта прымус. Гэта проста стварэнне роўных умоў для беларусаў, якія вымушаны былі з дзяцінства каверкаць сваю мову, пераходзячы на расійскую, як спадар Лукашэнка, які не валодае ў выніку ні той, ні іншай мовай. У гэтым — адна з праяў таго ганебнага становішча, калі чалавек губляе прыкметы адукаванасці. Што нам варта вывучыць беларускую мову? Ангельскую ж вывучаем.

**— Па сабе скажу: даволі аднаго інтарэсу. Зацікавішся — і яна сама ў цябе ўвойдзе.**

— Слушна. Увогуле мова сёння — праблема не столькі культурная, колькі палітычная. І таму вырашаць яе трэба толькі палітычнымі метадамі.

**— Наконт "толькі" хочацца паспрачацца. Ці ж нельга мост да беларускай культуры — беларускую мову — будаваць з двух бакоў? Я маю на ўвазе і палітычныя рашэнні, і разумную агітацыю "за мову".**

— Так, з гэтым можна пагадзіцца. Больш таго, у Фронце нядаўна прайшла дыскусія, і мы прыйшлі да ўзаемаразумення, што ў нас дзве мэты — барацьба за палітычную ўладу, за стварэнне сапраўднага раўнапраўя, і барацьба на культурным фронце — выхаваўчая. Бо рускамоўнае насельніцтва — гэта ж у асноўным беларусы, а не рускія. Як "палітычны" бок моста будзе будавацца — гэта пакуль што ад нас слаба залежыць, а вось "выхаваўчы" бок — тут мы здольныя шмат зрабіць.

**— Калі б БНФ прыйшоў да ўлады, беларуская мова была б уведзена адразу ўсюды ці быў бы ўсё-ткі ўстаноўлены нейкі пераходны перыяд? 10-гадовы, скажам?**

— Каб развіццё йшло паступова, трэба пачынаць з садкоў, з малодшых груп нават.

**— Значыць, пераход на беларускамоўнае выкладанне ў ВНУ зараз ты не ўхваліў бы? Занадта вялікі скачок?**

— Для каго скачок? Я свае лекцыі чытаю па-беларуску, і ўсе мяне разумеюць. Хто хоча, калі ласка — адказвай па-руску. Прымус, вядома. Але калі б без яго можна было абысціся, не было б ні турмаў, ні міліцыі. Прымус ёсць у працы, без прымусу немагчыма выхаванне.

**— А ці няма ў цябе апаскі, што, навязваючы беларускую мову такім чынам альбо неяк інакш, можна адштурхнуць ад яе? Эйнштэйн жа гаварыў: "Калі тыгра сілком карміць мясам, ён стане вегетарыянцам".**

— Што паробіш, увесь прагрэс цывілізацыі быў звязаны з прымусам. Усе культурныя каштоўнасці па сутнасці навязваліся сілаю. *Успомні: "культура" ж па-лацінску — "падразанне", "апрацоўка".* Калі б мы былі паслядоўныя лібералы, усе людзі раслі б, як кветкі. Але ж нават хрысціянства карысталася сілаю. Ці ведаеш ты, адкуль пайшло — вянкі ў раку пускаць? Не? Такі быў "звычай" у паганскіх народаў — тапіць сваіх старых, а потым пусціць вяночак на іх успамін. Што ж благога, што першую частку абраду хрысціянства забараніла?

**— Здаецца, можна прыйсці ў нашай размове да нейкага ўзаемаўзгодненага выніку: мы падышлі да праблемы дапушчальнага, апраўданага прымусу ў культуры. Неабходнасць кампрамісу тут відавочная, і ты сам паказаў яго ў дзеянні.**

— ?

**— Я маю на ўвазе, што калі ты чытаеш лекцыі па-беларуску, гэта прымус для большасці ў аўдыторыі; але калі ты дазваляеш адказваць па-руску, ты, не пазбаўляючы людзей выбару, здымаеш псіхалагічную контр-рэакцыю ў адказ.**

**Інтэрв'ю правёў
Уладзімір ТРАЦЦЯКОЎ.**

# ЯКІЯ ЯНЫ, МЕЖЫ МАГЧЫМАГА?

*(Працяг. Пачатак на стар. 2)*

зганіць у вачах дэпутатаў згаданую папраўку. Зацікаўленасць прадстаўнікоў прэзідэнцкай улады ў тым, каб яна не прайшла, была відавочнай. Ды, зрэшты, "ларчик открывался просто" — новая фармулёўка артыкула нейтралізавала магчымыя спробы сяго-таго паралізаваць працу парламента. Як, дарэчы, ужо было раней. Дастаткова згадаць Вярхоўны Савет 12-га склікання, асабліва апошнюю фазу яго існавання, калі ён не мог прымаць рашэнні з-за адсутнасці 5-10 дэпутатаў, якім не дазволілі прыехаць на сесію выканаўчыя ўлады. Калі мець на ўвазе, што 29 дэпутатаў новага парламента працуюць у прэзідэнцкай вертыкалі, а 46 — у вытворчасці (таксама сфера дзейнасці выканаўчай улады), няцяжка ўявіць, што сарваць тое ці іншае пасяджэнне было б, як кажуць, "справай тэхнікі".

Вось чаму, разумеючы ўсё гэта, большасць дэпутатаў з напружаннем пазірала на табло, калі спікер парламента С. Шарэцкі паставіў на галасаванне згаданую папраўку. Большасцю галасоў яна была прынята, як, дарэчы, і ўсе астатнія папраўкі і змяненні Часовага рэгламента.

Напрыканцы дзённага пасяджэння прайшлі выбары намеснікаў Старшыні Вярхоўнага Савета. Паводле існуючага закона, спікер парламента сам выбірае сваіх намеснікаў. Ва ўсякім разе, выносіць іх прозвішчы на разгляд дэпутатаў. Па ўзгадненні з фракцыямі Сымон Георгіевіч Шарэцкі прапанаваў абраць ягоным першым намеснікам Васіля Новікава (фракцыя камуністаў), намеснікамі — Юрыя Малумава і Генадзя Карпенку (адпаведна фракцыі "Згода" і "Грамадзянская дзея"). Дэпутаты пагадзіліся з выбарам спікера.

Як далей разгорнуцца падзеі ў парламенце, якімі будуць межы ўзгодненых дзеянняў палітычных фракцый? Адказаць на гэта нялёгка. Асабліва, калі мець на ўвазе стаўленне розных катэгорый дэпутацкага корпуса да эканамічных пытанняў — фарміраванне бюджэта, прыватызацыі, іншых актаў, звязаных з развіццём рынкавых адносін. Усё гэта пытанні, у якіх, да прыкладу, тыя ж камуністы і дэмакраты займаюць процілеглыя пазіцыі.

Кажуць, што *палітыка — гэта здольнасць* дзейнічаць у межах магчымага. Але сёння "межы магчымага" — досыць няпэўнае паняцце. Усё-такі наш час — не час артадоксаў. Нават калі гэта камуністы.

**Міхась ЗАМСКІ**

●

Наша Беларусь, хто б паудмаў, першынствуе ў былым Саюзе па ўжыванні алкагольных напіткаў. На кожную нашу душу, ад немаўляці да нямоглага старога, прыпадае ў год па 6,3 літра абсалютнага алкаголю. Выходзіць, меншыя піткі ў Расіі, на Украіне, у Малдове. Алкагалізацыя нацыі не спрыяе якасці жыцця. А мы, апроч сваёй гары, якой вырабляем уволю, адкрылі шлюз для замежных напіткаў. Травіцеся, беларусы, на здароўе!

1993 год прынёс нам яшчэ адну, можа, самую шчымлівую трывогу. У суверэннай Беларусі прыпыніўся натуральны прырост насельніцтва. Нябожчыкі ўзялі "верх" над народжанымі. Удумаемся і злачынцаў, слава Богу, няма вашых сына ці дачкі, але яны могуць хадзіць па адных вуліцах, сядзець у адным кінатэатры, танцаваць на адной дыскатэцы з імі.

Вашых дзяцей няма ў Магілёўскай спецшколе — выдатна! Але там з нядаўніх часоў "функционирует" чацвёрты клас, навучэнцы якога з нараджэння ўмеюць курыць, піць і красці. Яны хутка вернуцца са спецшколы ў нармальную школу, дзе вашы дзеці вучацца. Там жа, у Магілёўскай спецшколе, бавяць час два падлеткі з Чэрвеньскага раёна, якія ўдзельнічалі ў нечалавечым дзікунстве: вялікай зграяй згвалцілі, а пасля чацвяртавалі пяцігадовага хлопчыка. Яны таксама хутка вернуцца з Магілёва і будуць жыць сярод нашых дзяцей...

"чортам падшыўся..."

●

Шасцігадовая Даша на праводзінах брата ў войска сказала:

— Як вырасту, і я пайду ў армію.

— Цябе не возьмуць, бо ты дзяўчынка, — растлумачыла мама.

— Тады я пайду ў замуж... — заявіла Даша.

●

Разбурылі дзіцячы садок.

На яго месцы пачалі будаваць кантору па сацыяльнай абароне насельніцтва.

Дзе такая перабудова?

А ў Мінску. На вуліцы Калектарнай...

Уладзімір ЛІПСКІ

# ПАД ДЫКТОЎКУ ДУШЫ...

З ДЗЁННІКА

здрыганемся: за мінулы год мы змайстравалі дамавін на 11,2 тысячы болей, чым калысак. І пры гэтым дэмографы не абяцаюць нам радасцяў на бліжэйшыя гады.

І гэта ў Беларусі, якая толькі ў 1971 годзе дасягнула даваеннай колькасці насельніцтва...

●

Наша Марынка нарадзіла Машку.

Тры кіло дзвесце дваццаць грамаў. Удоўжкі — паўметрыка.

Радасць і трывога!

У адкрыты чалавечы космас выйшаў новы насельнік зямлі. Якія сонечныя дарогі павядуць яго? Якія буры чакаюць? На якой арбіце закруціцца?

Мама — знясіленая і шчаслівая родамі.

Бацька — певень са шпорамі, ганарлівы і ўзнёслы.

Бабуля — квактуха, устрывожаная і абмаладзелая.

Дзед — куляе чарку за здароўе немаўляці, марыць напісаць пра ўнучку новую кнігу.

А Машка соладка-соладка спіць. Ды толькі зрэдку паварушвае ружовенькімі губкамі-банцікам. Кім вырасцеш, мілы зайчык?..

●

На Гомельшчыне, якая па волі жорсткага лёсу стала эпіцэнтрам ядзернай трагедыі на Украіне, усё больш трывожным становіцца здароўе дзяцей, іх мацярок. Цяжарных жанчын, якія пакутуюць ад анеміі, павялічылася ў чатыры разы, з сардэчна-сасудзістымі захворваннямі — у паўтара раза, з захворваннем нырак — у 3,4 раза. Нармальных родаў зменшылася на 12,7 працэнта. А сярод дзяцей выяўлена 8,4 выпадка рака шчытападобнай залозы на сто тысяч дзіцячых насельнікаў. У Еўропе гэты паказчык не перавышае 0,5 на тую ж колькасць дзяцей. Медыкі заўважылі, што першасныя вострыя захворванні ў дзяцей пераходзяць у хранічныя, якія даводзяць хворае дзіця да інваліднасці. Такая з'ява названа "чарнобыльскім СНІДам". Можна прадаўжаць сумную статыстыку. Але давайце ўвойдзем у будынак дзіцячай абласной бальніцы. Яна разлічана на 220 ложкаў: а тут уціснута 360 ды яшчэ 200 — для маці, якія даглядаюць хворых немаўлят. І атрымліваецца: замест планавых сем квадратных метраў у бальніцы... толькі два на адзін ложак. Назавіце, у якой яшчэ краіне планеты так здзекліва ставяцца да хворых?!

●

Правільна спяваецца ў песні: калі боль іншага тваім не стаў, то дарэмна прайшло тваё жыццё. Мы ўсе разам павінны развіць спагаду, любасць, міласэрнасць да сем'яў і дзяцей, якія трапілі ў бяду. Бо смешна і наіўна, а можа, і злачынна, цешыць сябе, што бяда прайшла бокам, не зачапіла вас ці вашых дзяцей. Гэта падманная радасць. Сярод тысяч малых

●

На вежы сядзіць варона.

Яна — на вышыні.

Чысціць пёркі. Круціць галавой па наваколлі. Відаць, пакеплівае з мяне, чалавека. Бо я — унізе. Грэю штанамі лавачку. І ніколі не пасяджу там, дзе яна.

Ды ўсё-ткі найсаладзей быць чалавекам унізе, чым варонай на вышыні.

●

Жаночы розум — сэрца.

А наш парламент, урад амаль з адных мужчын. Дык вось чаму ўладары — бессардэчныя.

●

Цалюткі дзень стукаецца ў вакно дождж. Капаюць слёзы па шклінах, бо не пускаюць іх у хату.

Што нясе мне дождж?..

●

Руслану Пазняку — два гады. Ды зведаў ужо сіроцтва, адзіноту, казённыя харчы.

Казкі расказвае дзетдомаўская няня. Яна для яго — мама.

*Дзіця любіць таго, хто яго любіць!*

А родная мама Люба пазбаўлена праvоў на Руслана. І бацька Сяргей — таксама.

Такое дзікунства можа быць толькі сярод людзей.

І, здаецца, толькі ў нас...

●

Сяргей Гайкоў — інвалід з дзяцінства.

Яму — дзевятнаццаць.

Без маці не можа паабедаць.

У роце трымае пэндзлік, малюе культурыста.

Заікаецца ад хвалявання, прызнаецца:



*Фота А. КЛЕШЧУКА.*

— Каб у мяне былі папера і фарбы, я б каго хочаце намаляваў... Калі быў у Рэчыцкай школе-інтэрнаце, задалі сачыненне пра Пушкіна. Літары пісаць мне цяжка, дык я намаляваў паэта. Пяцёрку паставілі...

Расказвае Сяргей, жартуе. А мне плакаць хочацца. Чаму медыкі пры родах гэтага карманскага хлопчыка былі такімі злачынна няўважлівымі?..

Роздум.

Успаміны.

Сум і трывогу.

*Што дае ўсяму зямному?*

Жывільную сілу.

Прыгажосць і чысціню

Дзецям — лужы.

Хто дажджом можа завітаць да мяне?

Верны чалавек!

●

— Міша чортам падшыўся. Рабіў абы-што. І так давёў бацьку, што той з-за яго кінуўся ў калодзеж. Утапіўся. Але перад тым прывязаў да сябе вяроўчыну, каб лягчэй было выцягнуць яго, тапельніка. О як было ў нас...

Міша — прыёмны сын.

Адзін Бог ведаў, якія гены перадалі яму маці-зязюля і бацька-шакал. Яны й пачалі праяўляцца, калі Міша падрос. Ды

●

Размова па тэлефоне-аўтамаце. На ўсё аўтобусна-прыпыначнае наваколле:

— Твой Жорык ажаніўся?.. Нічога страшнага — развядзецца... Ха-ха-ха!..

"Ха-ха-ха" расшыфроўваецца так: за шэсць месяцаў 1994-га, Міжнароднага года сям'і, у незалежнай Беларусі згуляна 31257 вяселляў. А сем'яў распалася — 22406.

Папоўнілася войска бязбацькавічаў. Дахахаліся...

●

Аўтобус з чорнай стужкай на бакавіне імкліва рухаўся ў бок Міханавіч. Пасярод аўтобуса стаяла дамавіна, а ў ёй — мілая ўсім Ліля Паўлаўна Савошка. Яе везлі на вечны спачын на новыя мінскія могілкі. Там зусім нядаўна шумеў гай. Гараджане ездзілі туды ў грыбы.

Жалобныя пасажыры, аб'яднаныя горам, плакалі, цяжка ўздыхалі, сумна пазіралі ў вокны аўтобуса. Стаяў сонечны дзень. На палетках цюкавалі салому. У садах даспявалі яблыкі. На дарогах гойсалі легкавушкі, самазвалы. Шкада, усяго гэтага ўжо ніколі не ўбачыць гаротная Ліля...

Уехалі ў дачны пасёлак. Па абодва бакі стаялі гмахі-крэпасці з белай ды чырвонай цэглы. Фантазія сытых аднаасобнікаў, здаецца, не мела мяжы. Дамы з чатырма паверхамі, з балконамі і лоджыямі, з байніцамі і зімовымі аранжарэямі.

Дзядзька Іван, які прыехаў з вёскі развітацца з Ліляй, убачыў дачныя палацы і ледзь не мацюкнуўся:

— Цяпер я ведаю, чаму мы бедныя. Злодзеям трэба будаваць такія харомы...

— А няго ж, нешта аднялі ад дзяцей, ад пенсіянераў, ад настаўнікаў — сабе прысвоілі, — падтрымала размову баба Лена...

Жалоба па Лілі стала яшчэ больш балючай.Жанчына за ўсё сумленнае жыццё зарабіла толькі пенсію, якой ледзь хапала на хлеб...

●

Налавіў нарачанскіх акунёў.

Ездзіў на лодцы амаль на сярэдзіну возера. Цягаў матросікаў з глыбінь сцюдзёных.

На беразе мяне сустрэла сямейная пара адпачываючых.

Ён, мажны і цікаўны, сказаў:

— Якая цудоўная рыба!.. Зайздрошчу вам. Мо калі і мяне возьмеце з сабой?

Падышла яго жонка, худая і вострая, зірнула на бялявых паласацікаў, зморшчылася:

— Фу, какая гадостная рыба!.. Чистить ее — одно мучение...

Розныя чалавечыя полюсы.

Два берагі жыццёвай ракі.

Што склейвае іх? Што збліжае і родніць?..

●

Наведаў свае Шоўкавічы.

У кожную хату занёс аўтарскую кнігу пра землякоў "Адпяванне жывых". Разам цешыліся і плакалі.

У хаце братачкі Петруся адкрыў "Шампанское". Баба Франя сказала:

— Мы такога кіпучага век не бачылі. Як яго піць?..

Пакуль кніжку выдалі, памерла баба Арына. Пахавалі цётку Новічыху. Сканала Кірыліха. Адышла ў нябыт Жэня Калачова. Наклала на сябе рукі Насця Паўлікава. Загінуў Васіль Манін. Райчын муж Слязінка. З сынам цюкаваў сена. Выскачыў з кабіны, каб разматаць траву на матавіле. Не выключыў матор. Спяшаўся — стаханавец. Яго змяло разам з травой...

Адпяваю жывых. Што раблю?

Жыццё люблю!

Аб адным малю, аднаго жадаю, каб душа і сэрца не дайшлі да адчаю...

●

Араты ссівеў.

Конь здох.

Плуг заржавеў.

Поле зарасло быльнягом.

Засталася пуга.

Ляскаць ёю ёсць каму. А паганяць няма каго...

Запіс пасля наведання "неперспектыўнай" вёскі на Гомельшчыне.

●

Як пішацца дзённік?

Падключаеш сэрца да высакавольткі жыцця.

Пазіраеш на свет здзіўленымі вачыма.

Смяешся з тым, каму святочна.

Плачаш з тым, у каго гора.

Трымаеш у руцэ ручку. Ды запісваеш усё, што падказвае душа...

## ЧЫТАЙЦЕ ПРА ВАЙНУ. А ПОТЫМ — ПРА ЧАРНОБЫЛЬ.

**У канцы мінулага года пабачыў свет чарговы нумар літаратурна-мастацкага альманаха "Магістраль", які выдае Гомельскае абласное аддзяленне Саюза пісьменнікаў. Прысвечаны ён 50-годдзю Вялікай Перамогі.**

**Адкрываецца альманах апавяданнем старэйшага пісьменніка, франтавіка М. Даніленкі. З прозай выступаюць таксама настаўнік У. Каленчыкаў і журналіст М. Дзямчыхін.**

**Васіль Ткачоў прапанаваў чытачам новую п'есу.**

**Багаты, як заўсёды, раздзел паэзіі, дзе з вершамі, большасць якіх прысвечана Вялікай Перамозе, прадстаўлены У. Верамейчык, І. Катляроў і С. Шах, а таксама іх маладзейшыя таварышы па літаратурным цэху — В. Кіеня, А. Дуброўскі, Т. Кручэнка, І. Журбін, У. Бабкоў, М. Літвінаў, Г. Атрошчанка, удзельнікі вайны паэты В. Габееў і К. Ельчанінаў.**

**З публіцыстычнымі творамі да чытача прыходзяць паважаныя ў Гомелі людзі, удзельнікі Вялікай Айчыннай вайны М. Дзмітрыеў, С. Шакараў, Ф. Стальмашок, а таксама журналіст М. Гулевіч.**

**Прадмову да альманаха напісалі цяпер ужо былы старшыня абласнога Савета народных дэпутатаў М. Вайцянкоў і старшыня выканаўчага камітэта абласнога Савета народных дэпутатаў П. Шыпук.**

**Рэдкалегія альманаха прыступіла да падрыхтоўкі чарговага нумара, які цалкам будзе прысвечаны сумнай даце — 10-годдзю аварыі на ЧАЭС.**

**Васіль БАРХАНАЎ**

## У СУВЯЗІ З ЮБІЛЕЕМ

**У Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі разгорнута маляўнічая выстава лепшых кніг, якія выпушчаны за 15 гадоў дзяржаўным выдавецтвам "Юнацтва". На вечарыну, прысвечаную юбілею гэтага вядомага творчага калектыву, прыйшлі ў бібліятэку народны пісьменнік Беларусі І. Шамякін, старшыня Саюза беларускіх пісьменнікаў В. Зуёнак, заслужаны дзеяч культуры Э. Скобелеў, міністр культуры і друку Рэспублікі Беларусь А. Бутэвіч, дырэктар выдавецтва "Юнацтва" пісьменнік В. Лукша, якія расказалі аб творчых пошуках і здзяйсненнях калектыву, планах на будучыню. У зале бібліятэкі прысутнічалі супрацоўнікі вядучых бібліятэк сталіцы, дырэктары сярэдніх школ Міншчыны.**

**М. ЛАГОЙСКІ**

## ЛУКАШЭНКА Ў СУСЕДСТВЕ З ...ПАЗНЯКОМ

**Як ні цяжка даводзіцца сёння ў справе кнігавыдання, ды ўсё ж рознага роду даведнікамі, энцыклапедыямі цяпер нікога не здзівіш: выдавецтва "Беларуская энцыклапедыя" імя Петруся Броўкі робіць, здавалася б, немагчымае і рэгулярна з'яўляюцца так неабходныя выданні, што разлічаны літаральна на самага шырокага чытача. Тым не менш з'яўленне напярэдадні Новага года энцыклапедычнага даведніка "Беларусь" — падзея далёка неардынарная.**

**Пабачыў свет аб'ёмны том (каля 800 старонак), які ўпершыню ахоплівае разам усе звесткі пра асноўныя сферы жыццядзейнасці нашай краіны. У выніку паўстае сама Беларусь у яе шматгранным вобліку. 4800 артыкулаў, у тым ліку 1618 біяграфічных даведак, 1370 ілюстрацый, карт і схем дазваляюць найбольш поўна пазнаёміцца са шматвяковай гісторыяй нашай краіны, яе геаграфічным становішчам, раслінным і жывёльным светам, эканомікай, навукай, літаратурай , мастацтвам, культурай. І, канечне ж, бліжэй убачыць тых, каго можна аднесці да лепшых сыноў Бацькаўшчыны.**

**Немалаважна і тое, што ў даведніку шмат матэрыялаў, якія тычацца і шматграннага сучаснага жыцця. У прыватнасці, можна прачытаць пра Віскулі, Садружнасць Незалежных Дзяржаў, Беларускі народны фронт, Канстытуцыйны суд Рэспублікі Беларусь.**

**Прадстаўлены і матэрыялы пра вядомых дзяржаўных і палітычных дзеячаў. І што адметна: Аляксандр Лукашэнка, Зянон Пазняк, Станіслаў Шушкевіч і іншыя тут адчуваюць сябе разам даволі ...утульна.**

*НАД СТАРОНКАМІ СПАДЧЫНЫ*

# ДЗЯКУЙ, ШТО ВЕРЫЛІ...

Кажуць, душы людзей, што пакінулі нас на Зямлі, адлятаюць у неба і загараюцца там новымі зоркамі-znічкамі. Святло гэтых зорак ідзе да нас доўга, пераадольваючы нязмерную ростань паміж намі, яшчэ жывымі, і тымі, хто ўжо адышоў у вечнасць.

Я веру ў гэта. І яшчэ я веру ў тое, што душы тых, хто нас любіў і апекаваўся намі, надзейнымі абярогамі спрыяюць нам на дрогкіх дарогах жыцця сённяшняга.

Душа пісьменніка, літаратара найперш застаецца жыць у слове — творах і кнігах, пакінутых наступнікам.

У 1950 годзе ў Краснаярскай турме бязвінна арыштаваны другі раз і высланы ў бестэрміновую высылку паэт і былы настаўнік Станіслаў Шушкевіч разважаў: "Прыйдзецца і мне калі-небудзь памерці..." Думаў пра смерць, пэўна ж, таму, што яна заўсёды была побач з палітвязнем. Але вязень Шушкевіч быў яшчэ малады, поўны жыццёвых сіл, а дома засталіся дробныя дзеткі і верная сяброўка. Гэта давала сілы, мацавала надзею: не, яшчэ не цяпер, не цяпер...

**Цяжка чалавеку жыць з душою,**
**А вы думаеце, лёгка паміраць...**

Паэт Шушкевіч, як і большасць з яго паэтычнага пакалення, шчыра славіў новае жыццё, з натхненнем пісаў пра будучае шчасце, якое абяцалі працоўным Беларусі розныя прамоўцы, "што так голасна і часта выступалі", спачуваў працоўным Заходняй Беларусі, што стагналі пад "пілсудчынай" (нізка вершаў "Захад").

Палкасць маладога сэрца юнака, дарэшты адданага сучаснаму і будучаму сваёй краіны, моцна і непасрэдна ўвасоблена ў многіх тагачасных паэтычных радках.

**Бо кожны дзень**
**Нам след кладзе**
**Да сонца над**
**Сусветам.**
**І пойдзе свет**
**За намі ўслед,**
**За намі,**
**За Саветы.**

*("Паходны марш", 1931 г.)*

Крывадушныя правадыры-прамоўцы, што абяцалі волю і шчасце беларусам, а ад беларускіх паэтаў патрабавалі натхнёных "пахваленаў" савецкай рэчаіснасці і палітыцы "бязлітаснага выкрыцця ворагаў", нарыхтавалі ўжо цынічныя ярлыкі "нацдэмаў" для тых, хто так акрылена клікаў "свет за намі ўслед".

У лістападзе 1936 г. быў арыштаваны і літсупрацоўнік "Звязды" Станіслаў Шушкевіч, адзін з многіх шчырых і адданых "краіне Саветаў" паэтаў. Вось радкі-ўспаміны з яго ліста да мяне ад 3 чэрвеня 1987 г.: "Сядзеў я ў турме з 12 лістапада 1936 года да кастрычніка 1937-га. Пасля нас, маладых пісьменнікаў, асудзілі на лагернае зняволенне. Мне "адкроілі" 8 гадочкаў, на такі ж тэрмін быў зняволены Змітрок Астапенка, а Барысу Мікулічу, Янку Скрыгану, Сымону Баранавых, Міхасю Багуну, Алесю Звонаку, Уладзіміру Хадыку і іншым не паскупіліся "адважыць" і больш..."

Як гэта было жорстка і бязлітасна: вынішчыць, паламаць крылы цэламу паэтычнаму пакаленню-выраю... Супрацоўнікам, следчым органаў НКУСа, якія ўжо з другой паловы 20-х гадоў метадычна вынішчалі навуковую і творчую эліту беларускага народа, лёгка было сплесці цянёты, расставіць пасткі-сілкі, каб абылгаць маладых, шчырых да наіву творцаў.

Нараканне на суровы лёс, чалавечыя крыўда і боль прачытваюцца за стрыманымі, амаль па-анкетнаму лаканічнымі ўспамінамі паэта пра сябе і той час: "Працаваў я ў Кемераўскай вобласці цесляром, шахцёрам, мулярам. А пасля аднаму з начальнікаў, бачачы, што я пачынаю хварэць, прыйшло ў галаву зрабіць мяне бухгалтарам. Спачатку бухгалтарам балансавай групы, пасля разліковай, а пасля старшым бухгалтарам вялікага саўгаса (лагернага). Пад канец майго зняволення я стаў галоўным бухгалтарам яшчэ большага саўгаса. Тут я ўжо працаваў не толькі зняволеным, а і вольнанаёмным.

З Мінска прыляцела балючае для мяне пісьмо. Мая жонка Алена Раманоўская, польская пісьменніца, пакінула мяне, выйшла замуж. Тады я, не думаючы доўга, ажаніўся з сібірачкай, якую дэмабілізавалі з ваеннага завода..."

З гэтай сібірачкай, Кацярынай Аляксееўнай, вярнуўся Шушкевіч пасля заканчэння тэрміну высылкі ўжо ў пасляваенны час, у 1947 годзе, у родную, разбураную вайной Беларусь. Спадзяваўся, што адпакутаваныя гады сібірскіх лагераў — крыўднае непаразуменне. Што было — тое прайшло, каму ўжо зараз паскардзішся на следчых, якія гвалтоўна змушалі да прызнання віны... Хоць гэтыя 8 год маглі стаць лепшымі гадамі свядомага чалавечага і творчага жыцця і сталасці. Але нічога не перайначыш. Тыя гады пражыты як са стратамі, так і з набыткамі...

Станіслаў Шушкевіч уладкаваўся працаваць у Данілавіцкай сярэдняй школе Дзяржынскага раёна, спадзеючыся на ціхае сямейнае шчасце і творчую працу школьнага настаўніка літаратуры. Аднак панастаўнічаў ён толькі два гады. У жніўні 1949 года Шушкевіч зноў быў беспадстаўна арыштаваны. Паўгода трымалі ў Мінскай турме, а пасля на падставе матэрыялаў, сабраных следчым Каганом, "ашчаслівілі" бестэрміновай высылкай у Краснаярскі край...

У сутарэннях Краснаярскай турмы ўзніклі ўжо цытаваныя ўпачатку радкі пра жыццё і смерць, пра гвалт і вераломнасць людзей і абставін, у якіх цяжка захаваць душу жывую: "За душой пагоняцца анёлы або чэрці...", "Цяжка чалавеку жыць з душою..."

Зберагаць, ратаваць душу і жыццё дапамагала сям'я. "...Мая жонка Кацярына Аляксееўна прыехала да мяне ў Краснаярскі край з малымі дзецьмі. Дачушцы было 3 гады, а сыну — 2. Я

# ДЗЕЦІ МАЕ, МАЛЫЯ ПТУШАНЯТЫ!..

Гожа, своеадметна выявіла сябе Клаўдзія Каліна ў беларускай літаратуры, пісала ў асноўным для дзяцей. Свой творчы шлях пачала ў 1962 годзе з казак (пераважна літаратурных з уласна аўтарскім сюжэтам) і апавяданняў, што друкаваліся ў часопісе "Вясёлка". У 1969 годзе большасць з іх увайшлі ў кнігу "Хлопчык-Пакідайчык".

Да юных чытачоў, як і наогул да людзей, ішла з адкрытым сэрцам. "Дзеці мае, птушаняты!" — так, памятаю, ласкава звярнулася яна да малых слухачоў падчас адной са сваіх сустрэч з імі. І гучалі гэтыя словы вельмі натуральна, цёпла. У сваёй манеры гаварыць з дзецьмі, пісаць для іх Клаўдзія Каліна ішла ад народных традыцый. Яе творчасць сфарміравалася пад уплывам фальклору і асабліва, мусіць, казачнага беларускага эпасу.

Казачнае і рэальнае з майстэрствам сінтэзавана ў пейзажных абразках, што склалі кнігу Клаўдзіі Каліны "Каляровыя месяцы". Паэтычна, у фарбах, гуках тут прадстаўлены дванаццаць месяцаў года, кожны з іх мае свой характар, настрой, непаўторнае аблічча. У абразках гэтых ёсць цікавыя звесткі, трапныя назіранні, народныя прыкметы. У іх адчуваецца жывая сувязь з народнай паэтыкай, з мастацкім мысленнем народа.

Адзначанае характэрна не толькі для казак Клаўдзіі Каліны — вы ўсёй яе прозе ярка выяўлены нацыянальны пачатак. Яна расла і выхоўвалася ў атмасферы павагі, беражнага стаўлення да роднай мовы і культуры. Як вядома, пісьменніца нарадзілася ў Заходняй Беларусі, дзе карэннае насельніцтва прыкладала ўсе намаганні, каб захаваць, не аддаць забыццю спадчыннага — роднай беларускай мовы, песень, звычаяў.

У Клаўдзіі Каліны быў свой матэрыял — усё тое, што яна, уражлівая заходнебеларуская дзяўчынка, асабіста ўбачыла, перажыла, што стала назаўсёды кроўна блізкім ёй. Яно прасілася на паперу, з'явілася эмацыянальным стымулам творчых пошукаў. Гэта кроўна блізкае, дарагое арыгінальна ўвасобілася ўжо ў першай аповесці Клаўдзіі Каліны для дзяцей "Забароненая песня" (1972), якая ўнесла свежы струмень у беларускую савецкую прозу для дзяцей. К таму часу ва ўмовах агульнай палітызацыі беларуская савецкая дзіцячая літаратура (найбольш проза) прыкметна страчвала сваю сувязь з нацыянальнымі вытокамі. У цэнтр увагі як своеасаблівы спецзаказ былі пастаўлены праблемы камуністычнага, інтэрнацыянальнага выхавання, папулярызаваўся славуты тэзіс аб збліжэнні нацыянальных культур і зліцці нацыянальных моў пры сацыялізме, актыўна вялася антырэлігійная прапаганда. Клаўдзія Каліна непрыкметна выйшла за межы рэгламентаванага, парушыла існаваўшыя літаратурныя догмы і схемы. Ды яна пра іх і не думала — проста пісала пра тое, што падказвала ёй сэрца, што лічыла неабходным сказаць новым пакаленням дзетак-беларусаў. "Ад прадзедаў спакон вякоў нам засталася спадчына", — гэтымі словамі Купалы можна выказаць пафас кнігі "Забароненая песня". Клаўдзія Каліна абыходзілася без спецыяльных тлумачэнняў і павучанняў, яна вяла размову са сваімі чытачамі мовай мастацкіх вобразаў. Уражвае багацце ў яе творах гутарковай мовы, фразеалагізмаў, адточанасць і натуральнасць дыялогаў, трапных народных жартаў. Пісьменніца знайшла выразныя штрыхі, трапныя дэталі, дзякуючы якім звычайная, на першы погляд, рэч набывае вартасць сімвала. Як, напрыклад, той вялізны, стары, акуты жалезам адмыслова зроблены і "дужа прыгожа афармлены куфар", што стаіць у адной з вясковых хат.

Істотна важным у мастацкай канцэпцыі аповесці "Забароненая песня" з'яўляецца эпізод, калі гаспадар з таго самага гістарычнага куфра дастае скрыпку, дакранаецца смычком да струн, падыходзіць

## ЯШЧЭ РАЗ ПРА КАРАТКЕВІЧА

**У выдавецтве "Навука і тэхніка" толькі што пабачыла свет кніга В. Шынкарэнкі "Пад ветразем дабра і прыгажосці", што мае падзагаловак "Жанрава-стылёвыя пошукі У. Караткевіча". Даследчыца засяроджвае ўвагу на адметнасці творчай манеры знакамітага пісьменніка, найперш скіроўвае гаворку на пошукі аўтара ў галіне прозы, а менавіта тут У. Караткевіч, як вядома, дасягнуў асаблівага поспеху, напісаўшы шэраг твораў, якія ўвайшлі ў залатую скарбонку беларускай літаратуры.**

**Гэта не першая кніга, цалкам прысвечаная творчасці аднаго з самых выдатных адраджэнцаў. Раней, як вядома, пра У. Караткевіча пісалі Анатоль Верабей, Адам Мальдзіс, Уладзімір Русецкі...**

## ... А ЖЫТА СЕЙ!

**Паміраць збірайся, а жыта сей... Гэтую прымаўку прыгадваеш міжволі, калі знаёмішся з кнігамі, што апошнім часам пабачылі свет у выдавецтве "Навука і тэхніка". Як вядома, яно неўзабаве зачыніцца. Тым не менш, няхай і не так часта, як таго б хацелася, кнігі з маркай "НіТ" усё ж прыходзяць да чытача. І не проста кнігі, а з густам аформленыя. Пацвярджэнне таму — манаграфія Р. Шауры "Самадзейнае выяўленчае мастацтва Беларусі". Гэтая праца вядомага даследчыка ахоплівае перыяд з 1917 года да 90-ых гадоў і, як відаць з яе назвы, прасочвае на працягу некалькіх дзесяцігоддзяў шлях, пройдзены так званым аматарскім мастацтвам. Асобным раздзелам прадстаўлена творчасць перыяду Вялікай Айчыннай вайны, калі свае творы стваралі тыя, хто са зброяй у руках змагаўся з ворагам. І яшчэ важна: у кнізе можна ўбачыць рэпрадукцыі асобных работ, якія, на жаль, былі страчаны пасля аварыі на Чарнобыльскай АЭС. Манаграфія Р. Шауры, як на сённяшні дзень, добра аформлена. У ёй змешчаны 60 каляровых і больш як 200 чорна-белых рэпрадукцый. А ішла да чытача яна ажно пяць гадоў. Прынамсі, значылася ў тэматычным плане яшчэ ў 1991 годзе. Ды лепш позна, чым ніколі.**

## ДОБРА, КАЛІ ЁСЦЬ АЛЬТЭРНАТЫВА

**14 снежня ў Наваполацку адбылася прэзентацыя новага нумара часопіса Таварыства вольных літаратараў "Калосьсе" (NN 2—3). На вечарыне, акрамя тэвээлаўскіх выданняў, можна было набыць свежы нумар "Нашай Нівы", кнігі з серыі "Адкрытае грамадства", заснаванай Беларускім Фондам Сораса. Сярод удзельнікаў прэзентацыі былі вядомыя аўтары беларускага альтэрнатыўнага літаратурнага руху Алена Шаціла, Іра Ульстэровіч, Вінцэсь Мудроў, Алесь Аркуш. На імпрэзе выступіў намеснік старшыні наваполацкай Рады БНФ Уладзя Кунцэвіч, які паведаміў, што ў Наваполацку ў бліжэйшы час пачне дзейнічаць альтэрнатыўная сістэма распаўсюджвання дэмакратычных выданняў, такіх, як газеты "БДГ", "Имя", "Свабода", "Народная воля" ды іншыя. Альтэрнатыўныя распаўсюджвальнікі паабяцалі, што возьмуць пад сваю апеку і часопіс "Калосьсе".**

**А. К.**

## "ПРАЛЕСКА", N 12

**Адкрываецца нумар лістом галоўнага рэдактара "Пралескі" А. Сачанкі з крыху нечаканай назвай "Вітамін Л". Хоць чаму нечаканай?: "Нехта трапна сказаў пра асабліва радовішча дэфіцытнага сёння вітаміну — вітаміну Л — вітаміну Любві. Дык вось, гэтае радовішча, якраз даступнае кожнаму, размешчана непадалёку — у бліжэйшых яслях-садзе. Прычым выдаецца вітамін не шклянкамі або пілюлькамі, а душой. Інакш, відаць, і нельга: хто з такой душой — працуе, хто без яе — даўно гандлюе на тутэйшым рынку".**

**"Пралеска" віншуе з 60-годдзем Н. Галіноўскую, змешчаны і яе творы "Дзіўны хор" і "Жартаўнік". З інтэрв'ю Л. Клышко з дырэктарам выдавецтва "Юнацтва" В. Лукшам "У гэтай кнігі будзе шчаслівы лёс" можна даведацца пра 15-гадовы шлях выдавецтва, а таксама пра унікальную кнігу "Казкі дзяцей Беларусі", напісаную самімі дзецьмі і выпушчаную летась "Юнацтвам", якую высока ацаніў у сваім звароце прэзідэнт краіны. Нездарма гэты матэрыял пададзены пад рубрыкай "Падзея года".**

**Даўно прыйшоўся даспадобы выхавацелям раздзел "Азбукоўнік і лічылка", які вядзе З. Кустава. У гэтым нумары — чарговы матэрыял.**

**Прапануюцца дакументальныя навелы У. Якубовіча "Замалёўкі з натуры", ноты і тэкст песні "Чараўніца-зіма" (словы і музыка Я. Жабко), упершыню друкуецца апошні твор, які напісаў для дзяцей М. Танк — верш "Вожык".**

Паэзія

Мікола КУПРЭЕЎ



## ПА ДАРОЗЕ Ў ЗІМОВЫ ПАВЕТ

**...і раслі з-пад камення прыгожыя церні,
і мякка было нагам
пад вешчам бяроз і вербаў...**

**Па дарозе ў Зімовы Павет
я спыніўся ў мястэчку Кароткая Восень.
Спалі хаты. Журылася ноч.
І свяціліся два акны.**

**Паставіў за вугал торбу
(з паветрам, скарынкай хлеба,
"Жалейкай" Купалы),
пастукаўся ў дзверы — не адчынілі,
спыталіся: "Кто там?"
Кажу: "Беларус Мікола".
— Так иди в Беларусь.
— Я ж прыйшоў.
— Ну, так лезь в окно.**

**І разбіў я акно і палез у карчму.
А ў другое акно дзве жанчыны ўляцелі.
Мне бульбы цабэрак паставіў карчмар
і віно.
Дзве жанчыны ка мне падселі.
Паглядзеў я налева: маладая, крамяная.
Паглядзеў я направа: кашчавая.**

**І віна наліваю налева, направа.
На балалайцы карчмар іграе,
карчмарка "Страдания"
з Волгі спявае.
Злева мяне маладая ўшчэнт абдымае,
тая горача справа касцямі сціскае.
Штурхнуў я налеваа —
блакітныя вочы гараць,
штурхнуў я направа —
дзве чорныя дзіркі стаяць.**

**Але добра было ў карчме:
дзве жанчыны шапталі мне.
Я іхнія рукі злавіў пад сталом,
сашчапіў у сваёй далані.
Гарэлі ў карчме залатыя агні.
Але тая пацішку пад чорным плашчом
празвінела абломкам касы.**

**І кінуўся я праз акно напралом —
таму што ў мястэчку
Кароткая Восень
апошнюю торбу згубіў за вуглом...**

## КОЖНЫ НЯСЕ СВОЙ КРЫЖ?

*Леаніду ГАЛУБОВІЧУ*

**Белы, сасновы
паклаў на сваю спіну,
рукі на ім сашчапіў. Нібы крылаты.
Грэх ніводны яшчэ не гнуў
мой крыж
у дарозе ад роднае хаты.**

**Ішлося мне лёгка — быў я малады,
абыходзіў казюрку і кветку на доле —
пад воблакам чыстым,
ля чыстай вады,
у светлай і цёплай юдолі.**

**Але чорны груган апусціўся на крыж,
два крылы распрасцёр над дарогай маёю,
і панёс я — зямлёю і небам між —
два крыжы
над сваёй галавою.**

**Праз белы мой
чорны ў спіну
мне кіпцюрамі глыбока ўчапіўся,
душу мне дзяўбаў і каркаў хлусню —
і берагам пекла я валачыўся.**

**Маскоўска-варшаўскай шашой —
той дарогай калючай і доўгай —
грэх чорны прапаішчай айчыны маёй
і белую жальбу прынёс я да Бога.
— Колькі яшчэ мне, высокі Гасподзь,
па свеце насіць пакуту?
— Сам нясеш, вечны раб!
Да мяне не ўзыходзь!
Скінь чорны крыж! Будзь раскуты!**

**— Я б скінуў —
ды ўжо ў кіпцюрах душа!
— Дык вырві яе з кіпцюрамі з цела!
...І я вырваў душу з груганом
са свайго крыжа,
З чорным крыллем яна адляцела.**

**Крыж белы ў радзіміцкім полі ляжыць,
бяздушна
стаю па-над ім нахілёны.
З ранаў капае кроў...
Як мне жыць без душы?!
Як мне крыж свой падняць,
на спіну палажыць?
Як Усявышняга збыцца праклёну?..**

●

**Пакуль я веснаваў і летаваў
пад старою бярозай ля Нараўкі —
веславаў ціхай Летаю,
вочы заплюшчыўшы, —
недзе неба плыло,**

**і з цёмных яго глыбіняў
далёкі пачуўся гудок паравоза
на беразе дзікім Ішыма,
і за вагонам цягнуліся доўга
самотныя юныя рукі чачэнкі,
і пакуль я праз гады вяртаўся
да мілых апошніх рук
ля журботнае хвалі Прыпяці, —**

**нада мною высока ў гняздзе,
калі я, нарэшце,
расплюшчыў вочы,
не было ўжо нікога.
Толькі трымцела вецце
ад далёкага крыку крылля.**

## ДЗІКІЯ ГУСІ

**Над маёю мансардай асенняй
дзікія гусі крыкнулі.
Кульбай насцеж акно расчыняю —
а яны ўжо далёка-высока.**

**На вуліцы суседскія гусі
ўгору задралі галовы,
сталі біць па зямлі крыламі,
пыл паднялі і з адчайным крыкам
пранесліся нізка і ўпалі на выгане,
зноў угору задралі галовы...**

**Зачыняю акно.
І пішу гэты верш Валянціне Аксак,
пішу пад страхою высока —
каб на ўзгорках сваіх нясвіжскіх
і ў менскіх аблоках — арліца —
не думала,
што вершамі дыхаю на падлозе
і б'юся, бяскрылы, нізка...**

## ДЫМ ЛІСТАПАДА

**Ціха юшкай звініць,
мякка нехта блукае ў коміне...
Даруй, дарагая: дагарае,
счарнелае курчыцца ў полымі,
за комін чапляецца дымам
апошняе слова тваё...
З неба ў шыбіну вецер б'е
галінкамі голымі...**

**У цёплым двары абапёрся
рукамі на камень высокі,
ды ён крутануўся спіной,
скінуў рукі, прыціхнуў помнікам...
Даруй, дарагая, забыўся:
недзе тут нашы крокі...
Забыўся таму,
што во гэтае падае лісце даўно
на мяне і на камень...
З неба вяртаецца дым,
клубіцца туманам пад вокнамі...**

**У хаце запальваю свечку,
іду да акна —
нехта ў двары са свечкай ідзе на мяне,
спыняюся я — там спыняецца ён,
за мною — сцяна,
а за ім — лістапад,
гляджу яму ў вочы, а ён — у мае.
"Адкуль ты?" — шапчу,
нешта шэпча ён там.
Расчыняю акно і клічу — нікога.
Толькі туман увайшоў праз акно,
стаў ля парога —
і знікае патроху.
Ціха бразнула клямка...**

Проза

## КРЫЖЫКІ-НОЛІКІ

Што й казаць, весела пачаўся мой сёлетні адпачынак... У першы дзень, у суботу ранічкай, выпала апынуцца каля магазіна "Аўтазапчасткі". Дакладней, сёння гэта ўжо цэлы аўтагарадок. Уздоўж вуліцы Якуба Коласа, па абодва бакі, выцягнуліся лініі камкоў, некалькі агароджаных каляровымі стужкамі пляцовак з шыкоўнымі інамаркамі. Тут жа — разасланыя посцілкі, на якіх ляжыць усё — ад ніпеля для веласіпеда да дызельнага рухавіка з танка Т-64 (служыў калісьці — адразу пазнаў). І сярод усяго гэтага нябачнага багацця віруе, як у мурашніку, мора пакупнікоў...

—Гэй, мушшына! — пачуў я выразны воклік збоку. Я азірнуўся. Мне ўзмахнула рукой нейкае дзяўчо, у шорціках і маечцы, з чароўнай усмешкай на круглым і моцным, як рэпка, твары.

— Мушшына! — зноў пазвала яна.

— Вы мяне? — я на ўсялякі выпадак тыцнуў рукой сабе ў грудзі.

— Вас! Чаго спалохаліся? Ну і мушшыны пайшлі...

Падыхожу. Столік з намаляванымі клеткамі, накшталт шахматнай дошкі. Кубікі. Пластмасавыя квадрацікі з лічбамі... Знаёмая, дзесьці ўжо не раз бачаная карцінка. Побач — некалькі заклапочаных, залішне мітуслівых тыпаў. Дзяўчо чамусьці ўжо не бачыць мяне, быццам гэта зусім не яна паклікала мяне толькі што з натоўпу. Затое аднекуль збоку ледзь не пад руку мне падныривае ўспацелы вяртлявы мужычок сярэдніх гадоў, на выгляд вясковы.

— Слухай, можа, у цябе шчаслівая рука? Кінь за мяне кубікі — раптам пашанцуе...

Я паціскаю плячамі:

— Ладна.

Урэшце, чым я рызыкую? Патросшы кубікі ў кулаку, з выглядам знатака кідаю іх на столік. Гледачы хутка падлічваюць ачкі:

— Дваццаць адно! Бач ты, шанцуе...

У руках пераможцы міжтым аказваецца сіняя пластмасавая бутэлька з нейкай вадкасцю для аўто.

Я ў прыўзнятым настроі збіраюся ўжо ісці далей, але ашчаслiўлены мной "вясковец" прытрымлівае мяне, адначасова звяртаючыся да мяне і да гледачоў:

— Слухай зямляк... ну як жа?.. Павінен жа я, людзі, аддзячыць чалавека ці не? Не па-людску неяк атрымліваецца, га? — Пры гэтым ён велікадушна дае мне патрымаць "выйгрыш", каб я, мабыць, адчуў яго важкасць, а сам вяртаецца да століка і падае мне некалькі пластмасавых квадрацікаў. Бясплатна, вядома. Каб я таксама згуляў...

Ну а далей... Далей я ўжо ведаю: усё будзе разгортвацца па знаёмым сцэнарыі. Спачатку дадуць выйграць, потым вытрасуць з цябе ўсё, аж да заручальнага пярсцёнка на руцэ, — яго, пэўна, і заўважыла зазывальшчыца, перш чым зачараваць сваёй мадэльнай усмешкай.

Гэтым разам мне хапіла розуму не заглынуць прыманку. Спаслаўшыся на тое, што спазняюся на працу, бягу далей. Але і на значнай ужо адлегласці ад століка мяне дасягае адчайны дзявочы крык:

— Мушшына! Эх, мушшына, т-тваю... крыжыкі-нолікі!

А можа, думаю цяпер, трэба было б рызыкнуць? Хаця б дзеля таго дзяўчаняці... Надта ўжо нагадала мне маю старэйшую дачку.

## ЛЕТУЦЕННАЕ

Назаўтра, нагадаўшы свае прыгоды каля магазіна "Запчасткі", людскі мурашнік і загазаваныя пляцоўкі з інамаркамі, сумна ўсміхнуўся і падумаў, што гэтак бяздарна губляць каштоўныя дні адпачынку — па меншай меры неразумна. Бо варта было вырвацца з гарадской калатнечы ўсяго толькі ў прыгарад і, Божа! — якое навокал хараство. Ані знаку абрыдлых чэргаў, мітынгаў, забастовак, дэпутацкіх разборак і славаблудства. Праца, цішыня і гармонія ўладарылі ў прыродзе.

Ліпень на зыходзе... Адышлі суніцы, чарніцы і маліна. Для парэчкі і агрэсту — самая пара. Вішні таксама амаль чорныя. На вішанніку па-за платамі і ў вёдрах уздоўж шашы. Бліскаць, нібы жарства...

У прыродзе — чырвона ад арабіны, ураджай якой, кажуць старыя людзі, на марозную, сцюдзёную зіму. Маўляў, прырода нездарма паклапацілася аб харчы для птушак. Дакранаюся да першародна-чысцюткай, з людзь прыкметным шызым

налётам гронкі, кідаю ягаду ў рот: ужо мяккая, з характэрным гаркавата-шчымлівым прысмакам. Рана, здавалася б, нагадала аб сабе восень. Ці, можа, жыццё пасля сарака ляціць, як той конь з гары, калі ўсё гэтак хутка адбываецца? Старэем, відаць...

Дзень адчувальна зменшыўся. Паўдзённая гарачыня давалі рэзка змяняецца вечаровай прахалодай. Сутонне неўпрыкмет пераходзіць у мяккую, аксамітных адценняў цемру. На сіняй прамакатцы неба — фіялетавыя расплывістыя плямы воблакаў.

Не заўважыш, як прыспеюць жнівеньскія зоркапады. Палыхне каляровы восеньскі ліставір... Залётаюць белыя мухі.

Яшчэ адно колца дабавіцца на ствале дрэва. Міне яшчэ год жыцця.

Дык набытак гэта ці ўсё ж страта?

Уладзімір ГЛУШАКОЎ



# ЖЫЦЦЯВІР

## ДУМКІ І НАЗІРАННІ ПАДЧАС ЧАРГОВАГА АДПАЧЫНКУ

### ЯШЧЭ РАЗ ПРА МАЛОЧНЫЯ РЭКІ І КІСЕЛЬНЫЯ БЕРАГІ

Ад запеставанага сонца, гарачага сасновага ўзлеску — на колькі хапае вока, плешчацца мора, нагадваючы колерам і ўсёй сваёй метафарычнай змястоўнасцю ўспенены сырадой. Гэта закрасавала рэдзька. Здаецца, зачэрпвай конаўкай і пі даспатолі. Як некалі ў дзяцінстве.

Непадалёк, на суседнім палетку, радуе вока шчыльная — руку не прасунеш — сцяна аўса: ад лёгкага подыху ветрыку зялёны звон. Хораша!

На душы — нейкая асаблівая ўпэўненасць у тым, што жыццё, сапраўднае жыццё, а не гарадская мітусня і базарны гвалт, ідзе на перыферыі. Ідзе сваім, звыклым ходам, як і было на зямлі спрадвеку, і нікому, і нічым яго не спыніць.

### КРОПКА Ў СПРЭЧЦЫ ФІЗІКАЎ І ЛІРЫКАЎ

Здарылася непрадбачанае падчас таго ж адпачынку. Для гэтага варта было выбрацца ў жніўні да досвітку ў лес. Маліннік стаяў пажухлы, знявечаны... Можа, таму гэтак рана й пажоўк, і лісце скруцілася, што ўраж-анне — як пасля пажару ці шабашу лясных нячысцікаў...

А побач — на стромкім стволіку сасонкі — лясны павук развесіў шаты павуціння, аздобленага, быццам інеем, шызай расой. Пазіраючы на гэты цуд прыроды, адчуваеш, як ніякаватасць і прыгнечанасць, дараваныя табе сённяшняй рэчаіснасцю, змяняюцца дабратой, прасвятленнем.

Сапраўды, прыгожае лечыць душу. Замілаванаму дзівоснымі карункамі, што нагадалі мне рыбацкія сеці (яны, сеці, назаўсёды ў маёй памяці, як і дзяцінства, як і дзедаўскі сад, дзе рыбацкія прынады былі паразвешаны на разгалістых дрэвах для прасушкі), захацелася ўскрыкнуць: “Божа! Якая прыгажосць!” Але ўслых атрымалася: “Якая геаметрыя!” Сказаў і сам у першы момант, здзівіўся сказанаму. Як жа! Выходзіць, незнарок паставіў знак роўнасці паміж фізікамі і лірыкамі, паміж формулай і вобразам... А як жа, падумалася, знакамітая спрэчка стагоддзя, якая, калі не памыляюся, не скончана? Аднак рэдагаваць сябе, як бывала, не стаў. Як убачылася — няхай так і застаецца.

### НАЗІРАЛЬНІКІ

Аднак ад сябе, як кажуць, не ўцячэш. Праз тыдзень-другі справы зноў прывялі ў горад. Наогул жа, мушу зазначыць, мяжа паміж сённяшнімі горадам і вёскай калі яшчэ існуе, дык хутчэй за ўсё ўмоўная. Вазьміце пытанні эканамічныя, сацыяльныя ці маральныя. Аднолькава востра стаяць там і тут. Ва ўмовах рэфармісцкага засілля зверху, калі паўсюдна пануе дзікі крыміналізаваны рынак, горад і сяло жывуць аднымі і тымі ж праблемамі, галоўная з якіх — як выжыць?

І вось прайшоў заўсёды такі чаканы ў спякотным жніўні спорны дождж-грыбасей — за якія паўгадзіны не толькі прыбіў пыл, але й змучаную спякотай зямлю прамачыў ледзь не на далонь. Дождж, ды сапраўдны, — радасць не толькі ў вёсцы, але і ў горадзе.

Сусед у трамваі, пазіраючы ў прамытае да бляску акно, задаволена, з нейкай нават асалодай у голасе заўважыў:

— Ваду, бач, злівае...

— Хто? — не зразумеў я, таксама зірнуўшы ў акно.

— Ды вунь жа, палівачная... — адхінуўшыся ад акна і кінуўшы на мяне ўжо абыякавы позірк, паясніў сусед.

Я прыгледзеўся. І на самай справе, шафёр шлангам, працягнутым пад сподам машыны ад ёмістасці, зліваў чыстую ваду ў сцёкавы люк...

Дзіўна, падумалася: чаму ж я гэтага не заўважыў, пакуль мне не падказалі збоку? Можа, таму, што карцінка сама па сабе ў гэты дзень, калі ўсё навокал зіхацела і духмяна пахла азонам пасля навальніцы выглядала не зусім натуральна? Урэшце, а ці не ўяўляе горад ужо сам па сабе (толькі ўслухайцеся — ур-ба-ні-за-цыя!) нешта ненатуральнае, супрацьлеглае чалавечай, і не толькі чалавечай, прыродзе?..

Пакуль я гэтак разважаў, у поле зроку трапіла звычайная смеццявозка, што паўзла па праспекце, прыціскаючыся да самага бардзюра. Чаму менавіта яна затрымала мой позірк? Зразумела ж, не таму, што яна, перыядычна прыпыняючыся каля акуратных гурбачак смецця, у выніку рабіла нейкую карысную для ўсіх нас працу. Зусім не таму. Справа вось у чым. Пасля таго, як смеццявозка прытармožвала, з кабіны выскокваў маладжавы на выгляд мужчына ў брызентавай робе невызначальнага колеру. Пакуль ён старанна прыпальваў ад запалкі недакурак, прыліплы да куточка яго рота, з другога боку кабіны... выпадала пажылая кабета, не па сезоне цёпла апранутая, з рыдлёўкай у руках. Я чамусьці звярнуў увагу на тое, што ў гэтай жанчыны, хутчэй за ўсё ўчарашняй сялянкі, хворыя, разбітыя цяжкай працай і варыкозам ногі. Таму яна і ў валёнках летам. Таму і не можа нармальна вылезці з кабіны, а як куль — усім целам — выпадае на дол. І пакуль шафёр курыў, яна рыдлёўкай кідала ў кузаў смецце.

Цікава, падумалася, а ці заўважыў гэтую акалічнасць мой назіральны сусед, які, здавалася, таксама ўтаропіўся позіркам у той бок? Пытацца было няёмка, але па выразу яго твару зразумела, што — не.

Два назіранні. І калі “адкрыццё” майго выпадковага суседа несла, гэтак бы мовіць, практычны змест: “Ваду, бач, злівае”, дык маё... Урэшце, пра што я.

Кожнаму, як гаворыцца, сваё.

### ГУЛЬНЯ

Ідучы ў чарговы адпачынак, даў сабе зарок не азмрочваць сваё існаванне хоць месяц атрутным тэлекактэйлем, якім штодня нашпігоўваюць нас з экрана ТВ, бо не такі ўжо ён бяскрыўдна-блакітны, а хутчэй свінцовы па сваёй сутнасці.

Аднак не адолеў аднойчы спакусу, — пасля прагляду блока крутых навін пацягнула, як кажуць, на дэсерт. Тым больш, што ў тэлеперадачы “Аўтаміг” брала ўдзел... выдомая эстрадная зорка. Цікава! Аказваецца, “зорка” сама водзіць інамарку, і таму яе запрасілі ў студыю. Традыцыйныя пытанні вядучага, вядома ж, паклонніка таленту госці, зразумела ж, з папраўкай на яе папулярнасць. І не зусім традыцыйныя адказы. У духу, так бы мовіць, разбэшчанай увагай мужчын фотамадэлі. Ну вось, калі гэта цікава тэлегледачам, вадзіць “Фольксваген” яе навучыў адзін з яе гарачых прыхільнікаў, прадпрымальнік. Праўда, правоў пакуль няма. Але, ведаеце, цудоўна абыходзіцца без іх. Якім чынам? Калі даішнікі спыняюць яе і прад’яўляюць прэтэнзіі, яна, не прамінуўшы асляпіць іх сваёй чароўнай усмешкай (раптам яе не пазналі?), адсутнасць правоў тлумачыць тым, што яны ёй без патрэбы, паколькі водзіць яна свой “Фальк” прафесійна і ўпэўнена, як адзначаюць знаёмыя аўтаспецы, у дарозе заўсёды сабраная і ўважлівая. Што яшчэ? Фотакартку на памяць? Дык у натуры яна больш абаяльная, нягледзячы на сваю фотагенічнасць... Ці не так?

Карацей, адносіны эстраднай зоркі і даішнікаў грунтуюцца на поўным узаемаразуменні і павазе, у выніку чаго яе яшчэ ні разу не аштрафавалі. Не без невялічкіх накладак, вядома. Аднаго разу, пасля даволі сур’ёзнага парушэння, яе паспрабавалі прыцягнуць да адказнасці, але... Вось як, прыкладна, гэта адбывалася:

“Вы хоць разумееце, што стварылі аварыйную сітуацыю на дарозе? Маглі быць ахвяры, калі б не выпадковасць...”

“Няўжо? — зорка выказала здзіўленне на твары. — Не можа быць”.

“Можа. Мы за вамі спецыяльна сачылі... Мужчыны азіраюцца на вас”.

“Мужчыны?” — томным голасам перапытвала эстрадная шахіня.

“Вадзіцелі. Маладыя і нават пажылыя”.

“Пажылыя... Ах, шэльмы! — какетліва пагражала яна наманікюраным пальчыкам у прастору. — Аднак пры чым жа тут я?”

“Ні пры чым. Але... Надалей раю не парушаць дарожныя правілы, — браў пад казырок дарожны інспектар, уяўляючы, як вечарам, за кухлем піва, ён выдасць сябрам, каго ён спыніў сёння, затым — жонцы... Варыянты адпрацуе па ходу справы. — Шчаслівай дарогі!”

Пытанні... Адказы... Вадзіцелі, на погляд госці студыі, падзяляюцца на джэнтльменаў і закамплексаваных хамаў. Першыя — тыя, хто неаднойчы бескарысна дапамагаў ёй у шматлікіх няпростых сітуацыях на дарозе, астатнія яе ж — тыя, чые позіркі і рэплікі-жарты, яна ўпэўнена, зневажаюць яе як асобу. Першыя, дзякуй Богу, ёй трапляліся часцей...

Сустрэча ў студыі заканчваецца жартамі, добрымі пажаданнямі, смехам. Мабыць, так яно і павінна быць. Не ўсё ж пра змрочнае і негатыўнае ў нашым жыцці, тым болей, на нашых дарогах, дзе штогод гіне людзей болей, чым на войнах.

І ўсё ж застаўся ў душы нейкі горкі асадак расчаравання, што мяне зноў прылюдна падманулі, паспрабавалі згуляць са мной у нейкую сумніцельную гульню... Таму, як пратэст, у мяне, слухача, узнікае пытанне, якое не задаў (а можа, не хапіла духу задаць?) вядучы ў знакамітай госці.

Пытанне і адказ — разам. Безумоўна, добразычлівыя адносіны адзін да аднаго, асабліва на аўтатрасе, — гэта добра. Аднак жа дарога — не выставачная зала ці салон прыгажосці. Варта толькі звярнуцца да сумнай статыстыкі здарэнняў на дарозе, каб хоць бы з этычных меркаванняў у даным выпадку праз папулярную перадачу не спекуляваць сабой, не рэкламаваць свае дамскія сакрэты ачмурэння мужчын, тым больш, калі яны ў форме і “при исполнении”; нарэшце, не педаліраваць бясконца на сваёй беспакаранасці, асабліва, калі размова тычыцца самага дарагога — чалавечага жыцця. Бо ў даным выпадку здольнасць своечасова націснуць на педаль тормаза — куды болей да месца.

І яшчэ. У сілу абставін, падчас перадачы, у мяне на руках былі білеты на канцэрт эстраднай зоркі. Не спатрэбіліся...

### ЖАНОЦКАЯ ЦІКАЎНАСЦЬ

У рукі трапляецца чарговы нумар вячэрняй газеты, дзе звяртаю ўвагу на невялічкую інфармацыю. У модным камерцыйным выданні, народжаным запатрабаваннямі рынку, з’явіўся артыкул пра яшчэ аднаго цудадзейнага экстрасенса, даволі маладога чалавека, які называе сябе доктарам. У пераліку яго магчымасцей неяк уздзейнічаць на мозг і псіхіку чалавека, станоўча ці адмоўна, фігуравалі і такія небяспечныя ўздзеянні, амаль забытыя сучаснымі пакаленнямі людзей як чары і навядзенне порчы.

У сувязі з гэтым цікавае прызнанне супрацоўніка часопіса ў афіцыйным друку: прыкладна сярод сотні тэлефанаванняў і паштовак у рэдакцыю пасля публікацыі — ні аднаго мужчынскага. Зацікаўленасць экстрасенсам цалкам прыпадае на нашу “цудоўную” палавіну. Яна ж, як мы памятаем, яшчэ і слабая... Дарэчы, можа, менавіта гэтай акалічнасцю ўсё і тлумачыцца? Ва ўсялякім разе, чым не падстава для таго, каб у вольны час паразважаць?..

### “У ЖЫЦЦІ БАЛЕМ ПРАВІЦЬ ВЫПАДАК...”

Напрыканцы адпачынку выкраіў дзянёк, каб сустрэцца з армейскім сябрам, бо іначай — калі б яшчэ выбраўся ў гэтую Мар’іну Горку? Не бачыліся ўжо гадоў пяць. Шыракатвары, нос быццам прыплюснуты (вынік юначага захаплення боксам), на канцы — гузікам, не ў крыўду кажучы, як у сабачаняці. Усмешка на твары здавалася б застылай, калі б не жывыя рыжыя агеньчыкі ў зялёных вачах. А яшчэ, я ведаю, у яго прастрэлена навылет плячо, таму левая рука слухаецца не так, як гэтага хацелася б. Здарылася тое, калі мы разам бралі супрацоўніка заходнегерманскай спецслужбы, які невядома як трапіў у склад праверачнай групы з Масквы пад маркай маёра. Ну а далей усё было, як у кіно. Маёр, выбраўшы зручны момант, застаўся ў боксе на ноч, залез у цяжкі сакрэтны танк і пачаў здымаць яго нутро... Навошта? Танк гэты па тым часе, калі мы служылі, быў самы магутны. Дастаткова сказаць, што баяздольнасць яго, у пераліку на людскія рэсурсы, была роўная цэламу палку. ТТП (тэхніка-тактычныя паказчыкі) яго былі вядомы, а вось нутро нашы чамусьці трымалі пад сакрэтам...

Мы з напарнікам якраз чакалі змены ў каравуле, аднак разводзяшчы на гэты раз прыйшоў адзін: у сувязі з прыездам камісіі (часць выдатная!) застаяцеся ў парку яшчэ на суткі...

Аб’ект, які мы ахоўвалі, — боксы з цяжкімі танкамі. Неслі ахову папарна. Праз пэўны адрэзак часу сходзімся, а напарнік і кажа:

— Слухай, хто гэта там зварачнымі работамі ўначы займаецца? Быццам усе даўно пакінулі парк...

Вырашылі пацікавіцца. Ускрылі бокс. Асцярожна наблізіліся да танка. Успышкі і шчоўканне затвора апарата красамоўна сведчылі, што там не наш рамонтнік. Вырашылі браць. Быццам і дзейнічалі хутка і рашуча, аднак, відаць, “маёру” ў яго становішчы таксама не было што губляць. Напарнік, апярэдзіўшы мяне, злавіў кулю ў грудзі. Добра, што на нейкія пяць сантыметраў вышэй сэрца. Я ж паспеў-такі, перш чым атрымаць “падарунак” ад залішне цікаўнага госця, пачаставаць яго. Дасылнікам па цемечку.

Мой напарнік злёг на пэўны час у шпіталь, а я паехаў у пазачарговы адпачынак дадому. Пасля таго выпадку саслужывец любіў гаварыць: “У жыцці балем правіць выпадак...” Я пагаджаўся.

Калі гэта было? Можа, у нейкім іншым жыцці? Раней, калі часцей сустракаліся, заўсёды было пра што пагаварыць — хапала адных успамінаў. Цяпер жа, калі сустракаемся зрэдку, болей маўчым. Дый пра што гаварыць? Успаміны нашы неяк самі сабой адышлі ў нябыт пасля таго, як была разбурана Берлінская сцяна, як адкрыта пачалі гандляваць тымі ж цяжкімі танкамі, мяняючы іх за мяжой на блокі жавальнай гумкі і атрутныя напоі...

Так, цяпер мы болей маўчым. Аднак мы ўсё бачым і разумеем без лішніх слоў. І з памяццю нашай, паверце, поўны парадак.

*SCRIPTA MANENT*

# ЕЛЬЦЫН РАСПЛАЧВАЕЦЦА ЗА ГАЛОЎНУЮ СВАЮ ПАМЫЛКУ

ЯК І ЧАКАЛАСЯ, на выбарах у Думу камуністы набралі па партыйных спісах найбольшую колькасць галасоў (вынікі галасавання ў аднамандатных акругах на момант падпісання гэтага нумара газеты яшчэ невядомыя). На гэты раз, у адрозненне ад 1993 года, сацыёлагі, якія старанна частавалі нас вынікамі перадвыбарчых апытанняў, аказаліся на вышыні.

## ЧАМУ КАМПАРТЫЮ НЕ ЗАБАРАНІЛІ?

Цяпер гэтае пытанне выдае дзіўным: як можна, КПРФ выйшла лідэры! Прычым выйшла цалкам дэмакратычным, выбарчым шляхам. Аднак у 1991-ым, на хвалі пасляпутчавай дэмакратычнай эйфарыі, прыняць па-сапраўднаму жорсткія меры супраць "ордэна мечаносцаў", які прынёс столькі зла Расіі і памежным краінам, можна было надзвычай лёгка. Такія меры сустрэлі б тады безагаворачную падтрымку велізарнай большасці людзей.

Аднак Ельцын з вялікадушшам пераможцы ўсяго толькі ПРЫПЫНІЎ дзейнасць кампартыі. Калі б ён быў у стане зазірнуць са жніўня 1991-га ў сённяшні снежань 1995-га!

Якімі матывамі кіраваўся тады прэзідэнт, пазбягаючы крайніх мер у адносінах да камуністаў? Я мяркую, яны вельмі празрыстыя. Галоўныя былі два. Першы — была амаль поўная ўпэўненасць, што народ, які ўдосталь нацярпеўся ад місіянераў светлай будучыні, больш не дапусціць іх да ўлады, ніколі ўжо не пасадзіць іх сабе на карак. Самі ж камуністы былі ў той час настолькі вартыя жалю, настолькі напалоханыя, што нібыта і не прэтэндавалі ні на што падобнае. Другая прычына — не хацелася зневажаць забаронамі само слова "дэмакратыя". Дэмакратыя — гэта ж максімальная свабода. У тым ліку і для нязгодных з табою.

Час паказаў, што і той, і другі тэзіс у дадзеным выпадку быў памылковы.

## ФЕНОМЕН БЯСПАМЯЦТВА

Сёння, пасля выбараў, ужо відавочна, што надзея на празарлівасць народа, на тое, што пасля ўсяго, што здарылася з Расіяй у XX стагоддзі, ён назаўсёды адвернецца ад камуністаў, была беспадстаўнай. За марксістаў-ленінцаў па партыйных спісах прагаласавала 22 працэнты выбаршчыкаў, гэта значыць прыкладна 15 мільёнаў. Больш, чым за любую іншую партыю ці блок.

Само сабою, сярод тых, хто аддаў галасы за бальшавікоў, шмат было наменклатуры, якая соладка ела і піла ў колішнія часы. Але нямала таксама людзей, якія нічога пры камуністах не мелі, па ўсіх сусветных стандартах былі галоднымі і голымі. Што ж іх вабіць у светлае камуністычнае мінулае?

Дзівосная рэч: мы ў апошнія месяцы выявілі адзін надзвычайнейшы феномен — кароткую гістарычную памяць нашых суайчыннікаў. Няхай сабе ў ёй не зберагліся нейкія даўнейшыя падзеі — усчатая бальшавікамі грамадзянская вайна, раскулачванне, кашмарны голад трыццацтых гадоў, паўсюдна раскінутыя "санаторыі" ГУЛАГа, начныя арышты, катаванні, расстрэлы... — такія правалы можна зразумець. Але ж мы забыліся і на зусім нядаўняе — тое, што было ўсяго чатыры гады назад. Амаль ніхто ўжо не памятае, у якім беспрасветным тупіку ў рэшце рэшт апынулася наша слаўная сацыялістычная эканоміка, як штотыднёва і штодзённа ўзнікалі чуткі аб новым немінучым голадзе (цяпер мы ведаем, што чуткі гэтыя былі не беспадстаўныя — голад сапраўды стаяў на парозе). У нас адсохла памяць аб тым, у якую праблему штораз вырастала неабходнасць купіць любую дробязь, любое глупства. Не, не купіць — ДАСТАЦЬ, іншага ж і слова не было. Асабліва калі вы жавяце не ў Маскве, — ледзь не паўкраіны павінны вы былі абабегчы-аб'ехаць, каб патрапіць на след неабходнага. А як патрапілі на след, тут і пачынаецца галоўнае — стаянне ў чэргах, начныя пераклічкі, слінявыя нумаркі на далонях... Спрэчкі і бойкі з суседзямі па чарзе, высакамернае хамства прадаўцоў... І калі дасталася табе жаданая ануча ці што іншае, — ганебнае свята, радасць раба, прыгнутага галавой да самай зямлі, далей і гнуцца няма куды.

І так было літаральна з усім, што неабходна чалавеку для жыцця. Каб здабыць неабходнае, сапраўды трэба было патраціць усё жыццё, ні на што іншае ні сілы, ні часу ўжо не заставалася.

На жаль, на ўсё забыліся.

Не стамляецца здзіўляцца гэтай забыўлівасці Гайдар, 1001-ы раз нагадваючы бяспамятным пра пустыя крамныя прылаўкі 1991-га (такое адчуванне, што ён і ягоныя слухачы жылі тады на розных планетах). Сацыёлагі з вучоным выглядам канстатуюць: "Масавая свядомасць большасці расійцаў не гістарычная, а сітуацыйная", "чым далей ад нас тая ці іншая падзея, тым менш яна ўспрымаецца як крыніца цяперашняга дрэннага становішча".

Між тым аніякіх падстаў для здзіўлення тут няма. Феномен рускага бяспамяцтва даўно і выдатна вядомы. "Мы лянотныя і нецікаўныя", — зазначыў калісьці Пушкін. "Гэтым ён хацеў сказаць, — піша А. Ф. Коні, — што ў большасці выпадкаў у нас не існуе ўчарашняга дня. Праз гэта заўтрашні дзень такі цьмяны, туманны. Мы не ведаем учарашняга дня не толькі ў нашым жыцці, але і ў жыцці грамадскім, і тое, што магло выхаваць у нас пачуццё абавязку, што магло даць нам цёмныя і светлыя карціны мінулага, усё гэта знікае ў туманнай далечы".

Някрасаў, калі ў яго пыталіся, чаму ён не скончыць сваю паэму "Каму на Русі жыць добра", адказваў, што па плане ён хацеў бы далей уявіць змрочныя карціны часу прыгоннага права, але яму няма калі збіраць фактычны матэрыял, ды і цяжка, бо ў нас "нават і нядаўнім мінулым ніхто не цікавіцца". "Пастаянна будзіць трэба, — гаварыў Някрасаў, — без гэтага рускі чалавек здольны забыць і тое, як яго завуць".

Рэч, аднак, не толькі ў забыўлівасці. Мы ж ведаем: вялікую рэформу Аляксандра II, які даў волю сялянам, многія з іх, як ні дзіўна, успрынялі як сапраўдную бяду. "Перад нягодаю то ж было: і сава кугікала, і самавар гуў беспярапынна", — успамінае чэхаўскі Фірс. "Перад якой нягодаю?" — здзіўляецца яго суразмоўнік. "Перад воляю".

Так і цяпер. Многія не ведаюць, што рабіць з нечаканаю свабодаю. Раней ва ўсім быў парадак. Кажучы словамі таго ж Фірса, — "мужыкі пры панах, паны пры мужыках". Тут — райкам, там — парткам... Адсядзеў свае восем гадзін — ідзі гуляй. Прыйшла палучка — атрымай свае 120 рэ. "А цяпер усё ўроскід, не дабраць розуму". Хочаш жыць, умей круціцца. Гэта што за штука такая — круціцца? Не-е-е, нам гэтага не трэба. Лепш назад, у колішні час.

Хто кажа, цяжка рэформы даюцца. Шмат творыцца глупства. Але ж асноўны накірунак — правільны, гэта ж як двойчы два відавочна. Калі вы хочаце дапамагчы справе, не стамляйцеся тыцкаць у глупствы і ляпсусы. У злачынствы, урэшце. Не, такая крытыка, такая пазіцыя не задавальняе: гэта, маўляў, занадта мелка для фігуры майго маштабу. Намагаюцца падважыць аглобляй увесь цалкам накірунак, павярнуць у адваротны бок. Клічуць на падмогу дабрадзеяў...

І многія, бачым, на той покліч адгукаюцца. А вы як думалі? Спакон веку вядома, якім чынам завабліваць і весці за сабой народныя масы. Лепш за ўсё рабіць гэта палымянымі прамовамі. Пра свабоду, пра роўнасць, пра братэрства. "Натоўп сляпы, і лоўкі дэмагог. Народ пайшоў, куды панёс паток", — канстатуе адзін з герояў гётэўскага Фаўста, з пагардаю назіраючы за адвечнай чалавечай замарокай. А ўжо ж бальшавікі гэтую зброю — дэмагогію — асвоілі дасканала.

## ДЭМАКРАТЫЯ — ДЛЯ ЗГУБЦАЎ ДЭМАКРАТЫЯ

Смешным сёння выдае і другі пасыл, які стрымаў Ельцына ад рашучых мер супраць партыі камуністаў, — пасыл, у адпаведнасці з якім дэмакратыя несумяшчальная з забаронамі.

Абсурдная сама пастаноўка пытання, што дэмакратычныя нормы распаўсюджваюцца на арганізацыю, якая, як паказала ўся яе гісторыя, НЕ ПРЫЗНАЕ ДЭМАКРАТЫІ і, прыйшоўшы да ўлады, неадкладна ліквідуе яе.

Бальшавікі, як вядома, і само слова "дэмакратыя" не ўжывалі, а толькі з эпітэтам "буржуазная". Буржуазная дэмакратыя — і гэтым усё сказана. І адразу ўсім зразумела, як да яе ставіцца і што з ёй рабіць.

"Гаварыць аб чыстай дэмакратыі, аб дэмакратыі наогул, аб роўнасці, аб свабодзе, аб усенароднасці... гэта значыць здзекавацца з працоўных і эксплуатуемых", — павучаў правадыр сусветнага пралетарыяту. Буржуазную дэмакратыю трэба, натуральна, знішчыць і замяніць дыктатурай пралетарыяту. Якая ў нас была дыктатура, якога пралетарыяту — гэта мы добра ведаем. Лысыя, вусатыя і брывастыя "пралетарыі" далі ўсім цудоўны гістарычны ўрок.

Ці змяніліся ў чым-небудзь істотным адносіны цяперашніх чырвоных да дэмакратыі? Калі і змяніліся, дык толькі ў горшы бок, у бок яшчэ большай нецярпімасці. Бо зусім відавочны дрэйф сённяшніх марксістаў-ленінцаў у бок нацыяналізму (расійскіх, не нашых марксістаў-ленінцаў. — "ЛіМ"). Нацыянал-сацыялізм — гэта тое, што ў благім сне не магло б прысніцца ідэйным прабацькам зюганавых, лук'янавых, купцовых. Прабацькі, як вядома, залічалі сябе да інтэрнацыянальнага дэпартаменту.

Усе апошнія гады — гады рэформ — камуністы былі на пярэдняй лініі барацьбы з імі і ў парламенце, і па-за яго сценамі. Галоўны іх прынцып: "Чым горш — тым лепш!" Зрабіць усё магчымае, каб рэформы ішлі спатыкаючыся, цераз пень-калоду, каб яны ў максімальнай ступені пагоршылі жыццё народа, а пасля ўсё зваліць на саміх рэфарматараў — такая была іх галоўная тактычная ідэя. Яшчэ адзін прынцып: заўсёдна супрацьдзейнічаючы рэформам, падтрымліваць у грамадстве максімальнае напружанне. Гэтае напружанне, як вядома, ледзь не выбухнула сапраўднай грамадзянскай вайной у кастрычніку 1993-га. Але яшчэ раней у тым годзе першамайская дэманстрацыя — традыцыйны язычніцкі рытуал камуністаў — прывяла да дзікунскіх крывавых сутыкненняў, чалавечай гібелі...

Зюганаў запэўнівае, што ён за "мірнаэвалюцыйны" шлях, "супраць гвалтоўных метадаў вырашэння праблем". Але ж ці можна мірна і эвалюцыйна адолець тыя праграмныя задачы, якія ставяць перад сабою бальшавікі? Ці можна, напрыклад, адабраць уласнасць у сарака мільёнаў чалавек, якія з'яўляюцца сёння акцыянерамі альбо гаспадарамі 118 тысяч прыватызаваных прадпрыемстваў? Ці можна мірна пазбавіць працы пяцьдзесят мільёнаў чалавек, якія заняты сёння ў прыватным сектары? А ўсялякі ж уціск і ў канчатковым выніку звядзенне да нуля гэтага сектара было і застаецца галоўнай задачай камуністаў. Як вядома, класікі марксізму, калі іх апаноўвала жаданне найкарацейшым чынам выказаць сутнасць свайго вучэння, зводзілі ўсё да адной-адзінай формулы: знішчэнне прыватнай уласнасці.

*Пад тымі ж лозунгамі і сцягамі...*

Мірна і эвалюцыйна адабраць уласнасць не ўдасца. Значыцца, зноў кроў. Вялікая кроў. Магчыма, грамадзянская вайна.

Ніякія запэўніванні цяперашняй змены камуністычных правадыроў, што яны, маўляў, гатовыя часова захаваць шматукладную эканоміку, нvarта прымаць усур'ёз. Бо за гэтай зменай прыйдзе другая, за другой — трэцяя і г. д., для якіх аніякія словы іхніх папярэднікаў не будуць мець сілы. Усё будзе рабіцца гэтак, як таго запатрабуюць інтарэсы ўтрымання ўлады. А ва ўмовах эканамічнага хаосу, які непазбежна надыдзе, калі здань камунізму зноў матэрыялізуецца на нашай няшчаснай зямлі, і тым больш ва ўмовах рэстаўраванай каманднa-адміністратыўнай эканомікі, чыя эфектыўнасць, як вядома, блізкая да нуля, адзіны спосаб застацца ля руля — усялякае задушэнне свабоды, прамыя рэпрэсіі...

(Зрэшты, ужо і сёння, загадзя нам гэта абяцае незабыўная мадам Гарачава і іншыя.)

Карацей кажучы, антыдэмакратычны, гвалтоўны, рэпрэсіўны характар камуністычнага рэжыму вызначаецца не тым, што Ленін — благі, Сталін — благі, Зюганаў — благі (хоць і анічога добрага пра гэтых людзей не скажаш), а самой сутнасцю, самой прыродай гэтага рэжыму. Гэтая ісціна ўжо безліч разоў канстатавалася, але неяк усе гэтыя канстатацыі выслізгваюць з-пад нашай асвечанай увагі. Неяк штораз цепліцца надзея: а раптам у гэтым прызыве апынуцца прыстойныя хлопцы? Паглядзіце ж, як на словах яны турбуюцца пра народ, пра чалавека-працаўніка, пра маладых, старых, пра маламаёмных, як абяцаюць знізіць цэны, падаткі, стрыножыць злачыннасць...

Добра б нам раз і назаўсёды засвоіць: дзе камуністы — там эканамічны крах, татальная несвабода, тэрор, гвалт. Незалежна ад персаналіяў. Гэта гэтак жа неабвержна, як законы Н'ютана. Сярод першых пакаленняў бальшавікоў таксама ж не адны вампіры былі, таксама меліся там рамантыкі, што шчыра верылі ў камуністычную утопію. Ну і што? Ці шмат праз тое змянілася? Ці стала іншай прырода камунізму? Ані ў самай малой ступені!

А калі ўсё гэта так, калі камуністычны рэжым — антыпод дэмакратыі, як аннігілятар, згубца, у такім выпадку, скажыце на прамілы Бог, які сэнс прыкладаць дэмакратычныя нормы да тых, хто з усіх сіл імкнецца ўсталяваць ці адрадзіць яго, асабліва на нашай змардаванай гэтым рэжымам зямлі? (Анідзе ж ён гэтак слаўна не пагуляў, як у Расіі!)

Яны ані ў чым не раскаяліся і анічому не навучыліся. Усе гаворкі пра гэта начыста абвяргае хоць бы пятнічная тэлепаляміка паміж нейкім "местачковым адвакатам" (ён сам гэтак назваўся) па прозвішчы Іваноў, што прадстаўляў КПРФ, і лідэрам "Дэмвыбару". Відаць, сярод партыйных таварышаў гэты Іваноў чуецца моцным палемістам — таму і саступіў Зюганаў яму сваё месца перад тэлекамерай. На самай справе гэты правінцыйны кухар прадэманстраваў палітычныя прыёмы на ўзроўні адэскага Прывозу. Галоўнае тут — рэакцыя па прынцыпе "Сам дурань!" Самаўпэўнены, нахабны, нахрапісты, што паяднаў у сабе старое агітпропаўскае "па ўказцы дзядзі Сэма" з жаргонна-блатным "кодла" — і гэта лепшае, што ёсць у сучаснай камуністычнай вярхушцы!

Гледзячы на гэтых цяперашніх івановых, толькі і думаеш: "Божа! Няўжо нас чакае блізкае прышэсце такіх вось людзей на вяршыню ўлады? За што такая кара? Чым жа гэтак мы прагнявілі Бога, што ён другі раз за адно стагоддзе насылае на нас такую ўсясветную бяду? Няўжо мы не маем права засупраціўляцца гэтаму?"

## ШТО ДЛЯ НЕМЦА КАПУТ...

Да забароны і абмежавання камуністычнай дзейнасці ў розныя перыяды прыходзілі куды больш мацнейшыя дэмакратычныя рэжымы, чым цяперашні расійскі. Прыгадаем хоць бы ЗША, ФРГ, Фінляндыю...

У іншых краінах — напрыклад, у Францыі, у Італіі — знаходзілі меры засцярогі лішнімі і ў выніку зведвалі нямала турбот. Тут, аднак, трэба ўспомніць, што еўракамунізм — зусім не тое, што наш расійскі камуністычны фундаменталізм. (Не трэба, вядома, блытаць з нашымі чырвонымі і тых "ружовых", якіх вітаюць сёння ва Усходняй Еўропе і Прыбалтыцы).

*(Працяг на стар. 15)*

ЛіМ
ЧАСАПІС

## УШАНАВАЛІ ПАМЯЦЬ



**У музеі Міхася Васілька, што працуе ў Скідзельскім СПТВ-199, адзначана 90-годдзе з дня нараджэння гэтага знакамітага заходнебеларускага паэта. Юбілейную ўрачыстасць адкрыла намеснік дырэктара вучылішча, адна з арганізатараў музея А. Салей. Пасля было дадзена слова вядучай — загадчыцы Скідзельскай гарадской бібліятэкі Н. Габаян. З успамінамі пра М. Васілька выступілі намеснік начальніка ўпраўлення прафесіянальнай адукацыі Гродзенскага аблвыканкама І. Урбановіч, намеснік старшыні Гродзенскага райвыканкама Ю. Белавус, сябра паэта заслужаны настаўнік Беларусі А. Цыхун, сыны М. Васілька Яраслаў і Леанід Касцевічы, яго стрыечная сястра Ф. Самойла. Выступленні чаргаваліся нумарамі мастацкай самадзейнасці.**

**Злева направа — Я. Касцевіч, А. Цыхун, Л. Касцевіч.**

**Ілья БАРЫСАЎ**

***Фота аўтара.***

## "ВІЦЕБСКАЯ СНЯЖЫНКА-95"



**Дзесяты міжнародны конкурс спартыўных бальных танцаў "Віцебская сняжынка-95" прайшоў у Віцебску. Майстэрства тут аспрэчвалі каля 100 майстроў спартыўнага танца з многіх гарадоў Беларусі, а таксама пары з Прыбалтыкі, Масквы і Санкт-Пецярбурга.**



***На здымку: фрагмент конкурсных выступленняў.***

***Фота Аляксандра ХІТРОВА, БЕЛТА***

# ГЛЫТОК ІЗРАІЛЯ

ПАДАРОЖНАЯ МАЗАІКА

Уладзімір МЕХАЎ

**1**

Мой унук, у жылах якога зліліся, сталі адной некалькі рознапляменных крывей, летуючы ў вёсцы ў дзеда беларуса, даведаўся, што другі яго дзед — яўрэй. Пачуў пра тое ўпершыню. Не таму, што пяты пункт анкеты гэтага другога дзеда быў у доме, дзе ён рос, мінападобным, непажаданым для абгаворвання пытаннем. Проста не праблемная і не займальная гэта для сям'і тэма — нацыянальнасць суродзіча, сябра, знаёмага. Зразумеў я, і ў вёсцы таксама кімсьці вымаўлена было запомненае малым без плюсавай ці мінусавай акцэнтацыі. Згадалася ў сувязі з нечым, і ўсё. Але дапытлівага малодшакласніка зацікавіла.

— Ты, праўда, яўрэй? — неяк па-новаму ўгледзеўся ён у мяне, вярнуўшыся дамоў.

— Так.

— Значыць, і я таксама?

— Мама ў цябе беларуска. Станеш дарослым, вырашыш, як сябе ў дакументах запісаць — па маме, ці па тату.

— А гаварыць па-яўрэйску можаш? — не сунімаўся хлопчык у дэталізацыі адкрыцця.

— Да сораму, кепска. Вельмі кепска. Мае бацькі, твае прадзед і прабабка, гаварылі між сабой, як у пару майго маленства ўжо большасць яўрэяў у Мінску, па-руску. Але на лета, на канікулы мяне, як цябе цяпер, адвозілі часам да бабулі. Жыла яна ў яўрэйскім мястэчку, тады іх было на Беларусі многа. Вакол там чуў яўрэйскую гаворку. Вось трошачкі, што з той гаворкі за лета засвойваў, у галаве і засталося.

Унук у мяне — кнігаед. З паўгода перад размовай, якую згадваю, праглынуў адапатаваную для дзятвы Біблію і кніжку біблейных паданняў. Дагістарычная далеч і пара дзедавага школьніцтва ў світальным ягоным узросце бачыліся яму аднолькава сівой даўнінай. І назаўтра ўведанае надоечы ад мяне ён пераказаў гарадской сваёй бабулі, маёй жонцы, досыць арыгінальна тое страктаваным. З падсветам асеўшага ў памяці чытанага старазапаветнага. Што ў пракаветнасці, калі прарок Майсей выводзіў з егіпецкай няволі паланёнае там ізраілева людства, у безлічы палоннікаў, якія брылі за блаславёным богам вешчуном свабоды, шкандыбала і мая бабуля. На вакацыі я да яе ездзіў, таму і ведаю яўрэйскую мову.

...Пад яркім, гарачым тут і на пачатку лістапада сонцам я клыпаю між рэштак раскапанага ў зямлі, ачышчанага ад напластаванняў пазнейшых стагоддзяў-тысячагоддзяў старажытнага горада. Гэта Кесарыя — у часы, бліжэйшыя да Майсея, чым да нас, квітнеючы цэнтр Іудзеі, знаны і ў землях далёка-далёка вакол порт пры Міжземным моры. Ёсць выслоўе, што археалогія — гэта дзесяць працэнтаў камення і дзевяноста працэнтаў уяўлення. У чарадзе разнамоўных турыстаў спыняюся перад астаткамі дзвюхтысячагадовай даўнасці партовых збудаванняў, перад ацалелымі з той даўнасці кавалкамі гарадской сцяны, забрукаванага пляца, іпадрома, тэатра, скульптурнай фігуры з першым эпіграфічным сведчаннем пра Понція Пілата, — і апынаюся ў дасвецці нашай эры. Партовыя збудаванні паўстаюць перад вачыма цэлымі, і каля іх пагойдваюцца на вадзе крутабокія грэцкія, карфагенскія, рымскія караблі, нагружаючыся соллю, здабытай у Мёртвым моры, востра пахкімі прысмакамі з Аравійскага паўвострава. На адкрытай небу арэне тэатра пад крык публікі на каменных лавах наўкруг сыходзяць крывёй рабы, якім не пашанцавала ў смяротным паядынку з ільвамі і барсамі, ці гэткімі ж, як самі, арэннымі байцамі з рабоў, — у тагачасным Рыме іх называлі гладыятарамі, не ведаю, як называлі тут. Абкружаны насцярожанымі ахоўнікамі, нераўнуючы як цяперашнія прэзідэнты, пляцам праходзіць грозны пракуратар краю Понцій Пілат — натуральна, для мяне абліччам такі, якім партрэтаваны Булгакавым.

І ўспамінаю колішняе ўнукава вытлумачэнне прычыны майго знаёмства з ідыш. І думаю, што, вядома, не помная мне бабка, забітая ў сорак першым гітлераўцамі, але найдалёкая мая пра-пра-пра-прашчурка і праўда ж магла ступаць егіпецкімі пустынямі за біблейскім прарокам. А яе нашчадкі, мае бліжэйшыя трошачкі продкі, праз тысячу гадоў уперад ад таго і за дзве тысячы назад ад мяне маглі тут, куды вось дабраўся, бачыць наяве тое, што бачу я ўяўленнем. Перш, чым стагоддзем, другім, трэцім пазней наступнікі іхнія, яшчэ бліжэйшыя ў радаводзе маім продкі, перабяруцца ў Іспанію, потым, яшчэ праз стагоддзі, гнаныя інквізіцыяй — у Германію, і ўрэшце праз колькі пакаленняў яшчэ — у Беларусь. Настолькі пераняўшы адзін з нямецкіх дыялектаў, што стане ён асновай іх новай роднай мовы — ідыш.

Што і як у гэтую Кесарыю мяне закінула? А тое, што яна — прыкметны пункт прыпынку ці не ўсіх турысцкіх аўтобусаў, якія снуюць па Ізраілі. Сталася гэткім пунктам і для аўтобуса, у якім, падарожнічаючы тут, сяджу з жонкай я. Аўтобуса, на лабавым шкле якога здалёк бачна абрэвіятура з лацінскіх літар "SPD". Нямецкая абрэвіятура назвы сацыял-дэмакратычнай партыі Германіі.

Жонка мая журналістка Ганна Краснапёрка дзяўчом перажыла нявольніцтва ў гета. Праз шмат гадоў пасля вайны яна напісала пра тыя чорныя задротавыя васемнаццаць месяцаў жыцця кніжку. Кніжка прыцягнула чытацкую ўвагу, была перакладзена з беларускай на іншыя мовы. У іх ліку ў Германіі на нямецкую. У выніку сям'я наша займела там шмат сяброў. З ініцыятывы гэтых сяброў, падтрыманай незнаёмымі добразычліўцамі з урада зямлі Паўночны Рэйн — Вестфалія, нам зроблены быў такі прэзент — прыслана запрашэнне наведаць Ізраіль. У складзе групы, сфарміраванай дзейным у сацыял-дэмакратычнай партыі "райзэбюро" — бюро падарожжаў. Два свае першыя візавыя дні мы адседзелі з аўтобуснымі спадарожнікамі на пленарных пасяджэннях арганізаванага тут гэтай партыяй сімпозіума, аднаго з шэрагу прысвечаных пяцідзесяцігоддзю вызвалення Германіі ад мораку нацызму: нямецкіх спадкаемцаў высакароднага Вілі Бранта не пакідае боль за ўчыненае ў часіну таго мораку ад імя іх радзімы. А далей — у дарогу. На дзесяць дзён. Гранічна насычаным у пазнавальным сэнсе маршрутам. З працягам сімпозіумных дыскусій вечарамі ў гатэлях — штовечар новым, — куды завальваліся пераначаваць.

Дык адчуванне не так ужо і далёкасці богведама як далёкага, адчуванне, калі не яўна рэальнасці міфічнага, то ўсё-ткі рэальнага пад ім грунту, — з самабольшых у той дарозе.

Едзем, а гід раптам кідае:

— Зірніце за вокны налева. Воддаль вёска. Калісьці то быў горад Магдал, дзе здарылася вядомае вам з Марыяй Магдалінай.

Вядомае нам — гэта пра заступніцтва Хрыста за блудніцу. Памятаеце: хай кіне ў яе каменем той, хто без грэху. І ніхто не кінуў.

Альбо ў гадзіну, калі абоч аўтастрады жоўта-карычневая выпаленасць пустыні Негеў, чуем:

— Едзем мясцінай, дзе стаялі Садом і Гамора.

Як бы матэрыялізуецца, значыць, яшчэ адна біблейская легенда. Пра знішчаныя богам у гневе гарады. Сярай і агнём. У пакаранне за распуснасць і разбэшчанасць жыхароў.

Альбо пры набліжэнні да Мёртвага мора — калі вакол усё часцей снегава бялее соль:

— Недзе тут паплацілася за жаночую слабасць жонка Лота.

Пачынаеш верыць, што і такое ці не было напраўду: ператварэнне па-дурному цікаўнай кабеціны ў салевы слуп. Бог загадаў не азірацца, а яна азірнулася.

Што ўжо казаць пра хвіліны, як у гарах над тым морам стаіш у пячорных сценах самай старой у свеце сінагогі. Ці ў Іерусаліме сціўшваешся ў самапершым у гісторыі хрысціянскім храме. Ці, зазірнуўшы ў калодзеж, бачыш дном брук, па якім ступалі сандалі рымскіх легіянераў.

Дзве з паловай — дзве тысячы гадоў ад нас. Не мізэр, зразумела. Ды па-тутэйшаму і не галактычная адлегласць.

**2**

Міфы з пракаветнасці ажываюць тут як даўняя рэальнасць, міфы ж, што склаліся пазней, ды і ў нашы дні ў нябыт не сышлі, — развейваюцца, абвяргаюцца. Маю на ўвазе зласлівае, здзеклівае, цёмна-забабоннае ва ўяўленнях пра яўрэйства. Што нагрувасцілася вакол яго за вякі існавання ў раскіданасці па свеце і, будзем шчырыя, працягвае досыць небяспечна буяць цяпер. Прыкры цень чаго заўважаеш, здараецца, нават у свядомасці асоб, вышыня талерантнасці і духоўнасці якіх не выклікае ў цябе сумнення. Цень часам дзіўны, часам малапрыемны, часам наіўна-смешны.



*Такі сямісвечнік — "менора" — стаіць у Іерасуліме каля будынка парламента.*

Успамінаецца прачытаная два гады таму на старонках "ЛіМа" публікацыя Алеся Асташонка "Габрэйскія матывы" (загуляла ж гэтае адкапанае з моўнай старызны "габрэйскія", "габрэі"!). Харошы, таленавіта напісаны, няхай трошкі з пераборам аўтаравага самалюбавання кавалак прозы — паводле падназвы, "фрагмент няскончанага рамана". Прасякнуты сімпатыяй да персанажаў. Пераканаўчы ў разуменні прыроды ўласцівай некаторым з іх закамплексаванасці. Вывераны ў танальнасці.

Ды на адным сказе я спатыкнуўся. Сказе, што хто-ніхто ўпарта лічыць аўтара ці аўтарава ў творы а л ь т э р  э г а — "другое я" — трошачкі яўрэем. Да "выкрывальных" у гэтым сэнсе адметаў ягонага аблічча адносячы сярод іншых — цытую — "к а р о т к і я  н о г і  п р ы  д о ў г і м  т у л а в е".

Божа літасцівы! Даўно дажыў да сівізны, а не ведаў, што пільнавокім юдафобам яшчэ і каротканогасць чалавека — знак таго, што ў стасунках з ім трэба расава насцярожвацца. У радзе з кучаравасцю, гарбаноссем, картавасцю — пра што забыўся, чаго не назваў? Нічога гэткім не давядзеш, запярэчыўшы, што каротканогае яўрэйства дало чалавецтву Маю Плісецкую, знакамітага галівудца, выканаўцу ролі Спартака ў сусветна-вядомым фільме пра славутае паўстанне Керка Дугласа, чые ногі пад кароткай тунікай прыводзілі у экстаз эмацыянальных глядачак, легендарнага ў беларускім балеце, рослага, адменна складзенага Сямёна Дрэчына, — называю першыя імёны, што ўсплылі на памяць. Хоць і разумею: ёсць тэмы, да гаворкі пра якія брыдка апускацца.

Але гэтыя нататкі — пра адчутае, убачанае, асацыятыўна згаданае ў Ізраілі. А між таго, на што не можаш не звярнуць там увагі, асабліва трапіўшы, як я, упершыню, — антрапалагічная рознасць тамтэйшага яўрэйскага жыхарства, на сённяшні дзень у краіне ўжо асноўнага, пераважнага. У жыцці мне неаднойчы сустракаліся людзі, якія заяўлялі, што яўрэя распазнаюць з першага позірку. Хто заяўляў з негатыўным адценнем у інтанацыі, хто негатыўнага ў сказанае не ўкладаўшы. Дык тут,

думаю, тыя самаўпэўненыя заяўшчыкі здорава пачухалі б патыліцы. Бо згледзелі б, вядома, у аблічнай вакол размаітасці твары і постаці тыпажнасці, якая ім бачыцца агульнаяўрэйскай. Тыпажнасці, скажам так, са штрыхамі — у каго больш, у каго менш, — шоламалейхемаўскіх персанажаў. Але згледзелі б вельмі нячаста.

Цяперашняе ізраільскае яўрэйства — самае рознаабліччнае. Русявыя светлавокія вікінгі паходжаннем з Германіі і негроідныя перабранцы з Эфіопіі. Абсалютна зрусіфікаваныя нядаўнія масквічы, ленінградцы, новасібірцы і поўныя грузіны манерамі, гарачнасцю, самапачуццём — учарашнія тбілісцы. Бронзававакурыя рэпатрыянты з Індыі і ніяк неадрозныя знешне ад арабаў уцекачы з Ірака ці Сірыі. І такое, дадам адразу, не толькі тут, у Ізраілі. У адной рускамоўнай газеце ЗША я прачытаў, быўшы там, насмешлівыя радкі сучаснага яўрэйскага пісьменніка амерыканца Леа Ростэна адносна невыкараняльнай, паводле перакanання юдафобаў, адразу пазнавальнай імі характэрнасці яўрэйскага аблічча:

"Што ж тычыцца "аблічча", то вельмі камічна: прынц Чарльз выглядае ну зусім па-яўрэйску, а папа рымскі вонкава яўрэісты нават больш, чым мая бабуля. Наогул, хто ў блізкі да нас час найбольш глядзеўся і глядзіцца яўрэем? Гебельс і Арафат! Сама ідэальны "арыйскі твар" з калі-небудзь мною бачаных — у Егудзі Мянухіна..."

З яшчэ развеянага, можна сказаць, самім фактам існавання Ізраіля — абразлівы міф аб несалдацкасці, воінскай няздатнасці яўрэяў. Міф устаялы, ніякімі прыкладамі несупадзення яго з праўдай невыкасавальны са свядомасці абываценя — і каб адно абываценя!

Па заканчэнні, помніцца, маланкавай вайны на Блізкім Усходзе ў 1967 годзе, калі маленечкі Ізраіль за шэсць дзён дашчэнту раскалашмаціў арміі вялізных у параўнанні з ім вакольных арабскіх краін, што наважыліся сцерці яго з зямлі, да мяне зазірнуў знаёмец-паэт. Чалавек ён быў увогуле прыстойны, антысеміцкім цемрашальствам, нібыта, не заражаны, але ў ягонай галаве тым не менш не састасоўвалася: яўрэі — і каб лётчыкамі, танкістамі, дэсантнікамі. Іншая рэч — гандлярамі, банкаўскімі клеркамі, дзялкамі.

— Ну тут ясна, — сказаў ён, не абмінуўшы гарачае, на той момант у размовах сама ходкае. — На баку ізраільцян ваявалі ўласаўцы, наняты зброд.

Стаўленне да ўласаўцаў было тады адназначнае, не цяперашняе.

— Хоць падлічы, у якім цяпер уласаўцы павінны быць веку. Ці ж у ваяцкім? — адказаў я. Сам сабе ўсміхнуўшыся, што такое некаму змагло ж уявіцца: памагатыя Гітлера — памагатымі яўрэйскай дзяржавы!

У наш час і той, каму гэтага вельмі не хочацца прызнаваць, ведае: ізраільская армія — з ліку мацнейшых у свеце. Салдат Арміі абароны Ізраіля — так тут войска называецца — вызначаецца годнасцю, патрыятычнасцю, усведамленнем, як ён патрэбен радзіме і як яна ім ганарыцца. Армія — быццам сама маладосць краіны. Прыгожая, спакойная за будучыню маладосць. Калі ў нас у былым СССР апошнія гады прызыўнікі, каму толькі ўдаецца, стараюцца ўнікнуць вайсковай службы, праўдамі-няпраўдамі яе пазбегнуць, то там не адбыць належнае ў арміі — ганьба для юнака і дзяўчыны, прычына для пачування нейкай у сабе непаўнацэннасці.

Вядома, быць тут салдатам нялёгка. Да ўсяго, больш, як дзе, небяспечна: пра магчымасць тэрарыстычнай акцыі не забывайся ні на хвіліну нідзе! Хлопцы ў вайсковым і з аўтаматамі, што стаяць усюды ў шматлюдных месцах, патрулююць па вуліцах, суправаджаюць гурбы школьнікаў, — не дазваляюць сабе ні на момант расслабіцца. Але выгляд у іх не паднявольных, змушаных падпарадкоўвацца непрыемнаму загаду, як тое чытаецца, скажам, на тварах і ў постацях міліцэйскай братвы, што перамінаецца з нагі на нагу на цэнтральным праспекце ў Мінску, калі ў нас візітуе хто высокапастаўлены з-за мяжы, — выгляд прасякнутых разуменнем адказнасці даручанага ім клопату. Што ж да службы афіцэрскай, то яна ў краіне з самых прэстыжных (і высокіх па аплаце, дадам у дужках). Колькасна невялікая ў час, калі не ідуць баявыя дзеянні (варта ўзнікнуць іх пагрозе, уміг падвойваецца-патройваецца), але найлепшым чынам тэхнічна аснашчаная, з'яднаная памяццю яўрэйства пра перажытае продкамі, пра Катастрофу ў цывілізаванай Еўропе ў найасвечаным дваццатым стагоддзі, армія тут — важны гарант непарушнасці адстаянага дзяржавай права на жыццё. І, паўтараю, доказ бязглуздасці абразлівага міфа.

Ці ўзяць трэцяе з антысеміцкай міфалогіі — байку аб няздатнасці яўрэяў да сялянскасці. Да працы ў земляробстве, у хлеве, на пашы. Тым, хто трымаецца гэтай байкі, на вочы б ператвораную рукамі ізраільскіх кібуцнікаў у квітнеючую да іхняга сюды не так даўняга прыходу скамянелую, адвеку няўродную зямлю. Калі сядзеў ужо над гэтымі старонкамі, у тэлевізійнай перадачы з Масквы пачуў адрузлага Васільева, верхавода адной з груповак распалай цяпер, здаецца, на варожыя між сабой хэўры нядобраслыннай чорнакашулечнай "Памяці". Суб'ект, які пры ўпамінанні пра Ізраіль наліваецца крывёй, ён выцадзіў праз зубы, што кібуцы — фарміраванні ваеннага камунізму. Уяўляю, як павесяліў бы народ у кібуцах, дзе пабывалі, калі б пра гэта расказаў. Народжаныя сапраўды ідэяй супольнасці аднадумцаў у працы, размеркаванні зробленага, іншых інтарэсах, мала не той самай ідэяй камун, што ў нас начыста сябе скампраметавала, кібуцы не выраджаліся ў нашыя калгасы. Выраслі ў магутныя арцельныя прадпрыемствы па вытворчасці сельскагаспадарчай, і не толькі сельскагаспадарчай, прадукцыі.

Вядома, заснаваныя ў большасці ідэалістамі з піянераў руху за вяртанне яўрэяў на гістарычную радзіму, яны цяпер, прынамсі многія, у досыць сур'ёзным крызісе. Унукі-праўнукі заснавальнікаў ды новапрыняты ў талаку люд з пазнейшых хваляў іміграцыі да калектывісцкага альтруізму ветэранаў (у тых дэвізам было — "Галоўнае, мы на зямлі продкаў, і мы ўсе тут роўныя, аднолькавыя!") ставяцца без рамантычнай замілаванасці. Не лічаць, напрыклад, справядлівым размеркаванне прыбыткаў гаспадаркі — няхай у выніку і прыстойна атрымліваючы — па колькасці ўтрыманцаў у сям'і, а не па вазе працоўнага ўкладу члена арцелі ў вытворчасць. Дзяржаве даводзіцца мазгаваць, улічваць генерацыйныя змены ў настроенасці і псіхалогіі грамадзян, што працуюць на фермах і трактарах сёння.

Але і пры наяўнасці праблем шматукладная сельскагаспадарчая індустрыя тут надзвычай інтэнсіўная. Ізраіль не толькі нармальна корміць сябе. Гародніна, садавіна, мясное і малочнае, субтрапічнае, гаёвае, кветкі — усяго не назавеш — ідуць адсюль у Заходнюю Еўропу, у Амерыку, да нас, на ўвесь свет. Папаўняючы дзяржаўны і недзяржаўны бюджэт, разбураючы яшчэ адзін хлуслівы міф.

Не шанцуе, словам, аматарам пэўнага паху міфаў. Хоць, разумею, давесці ім гэта — спадзяванне марнае.

*Працяг будзе*

# Яўгенія ПФЛЯЎМБАЎМ



13 студзеня 1996 года пасля працяглай хваробы пайшла з жыцця старэйшая беларуская паэтэса Яўгенія Эргардаўна Пфляўмбаўм.

Паэтэса нарадзілася 1. 11. 1908 г. у горадзе Мінску ў сям'і чыгуначніка. У 1930 г. скончыла літаратурна-лінгвістычнае аддзяленне педагагічнага факультэта Беларускага дзяржаўнага універсітэта. Прымала актыўны ўдзел у літаратурна-грамадскім жыцці. Была сябрам літаратурных аб'яднанняў "Маладняк", БелАПП, уваходзіла ў іх кіруючыя органы. З'яўлялася літсупрацоўнікам рэдакцыі газеты "Звязда". У 1930—1932 гг. працавала бібліёграфам Кніжнай палаты пры Дзяржаўнай бібліятэцы БССР імя У. І. Леніна.

Хваля сталінскіх рэпрэсій, разгорнутых на пачатку трыццатых гадоў супраць творчай і навуковай беларускай інтэлігенцыі, закранула і лёс Яўгеніі Пфляўмбаўм. У 1933 годзе паэтэса выязджае ў Сібір услед за сваім мужам, беларускім паэтам Максімам Лужаніным, які без віны быў асуджаны на два гады пазбаўлення волі. Яўгенія Пфляўмбаўм мужна прайшла нягоды высылкі побач з каханым чалавекам.

З 1935 года, пасля вызвалення мужа, не маючы магчымасці вярнуцца на радзіму, жыла ў Маскве, дзе ў 1935—45 гадах працавала рэдактарам Абароннага дзяржаўнага выдавецтва "Оборонгиз". У час Вялікай Айчыннай вайны была байцом супрацьпаветранай абароны Масквы. Пасля Перамогі вярнулася на Беларусь. З 1945 г. жыла ў Мінску.

Яўгенія Пфляўмбаўм пачала выступаць з вершамі ў друку з 1924 г. Была адным з аўтараў калектыўнай кнігі "Вершы" (у сааўтарстве з З. Бандарынай і Н. Вішнеўскай), якая выйшла ў 1926 годзе. Наступная кніга вершаў — "Сувой жыцця" — была выдадзена толькі праз шэсцьдзесят тры гады, у 1989 годзе. У тым жа годзе паэтэсу прынялі ў СП СССР. Яшчэ праз тры гады выйшаў апошні прыжыццёвы зборнік паэтэсы "На заходзе сонца" (1992 г.).

Паэзія Яўгеніі Пфляўмбаўм адметная спалучэннем глыбокага філасофскага разумення свету і тонкай лірычнасці. Паэтэса змагла стварыць уласны вобразны свет, дзе праявіліся яе высокія душэўныя вартасці і інтэлект, а таксама — непрымальнасць прыстасавальніцтва, кан'юнктуры. Усе вершы паэтэсы гранічна шчырыя, напісаныя "ад душы", таму хвалююць і кранаюць кожнага чалавека. Лірычная гераіня паэзіі Яўгеніі Пфляўмбаўм — чалавек мудры і дакліівы, абаронца агульначалавечых каштоўнасцей. Вершы паэтэсы прасякнутыя любоўю да беларускай зямлі, беларускай мовы.

Літаратурная грамадскасць Беларусі адкрыла для сябе яркі, сфармаваны талент Яўгеніі Пфляўмбаўм толькі некалькі год таму, калі пасля доўгага перапынку з'явіліся ў друку падборкі яе вершаў, выйшла кніжка. Таму багатая творчая спадчына паэтэсы яшчэ чакае сваіх даследчыкаў і новых прыхільнікаў. Несумненна, будзе ацэненая і вялікая праца Яўгеніі Пфляўмбаўм у якасці літаратурнага перакладчыка.

Яўгенія Пфляўмбаўм пражыла доўгае, плённае жыццё. У памяці блізкіх і знаёмых яна застанецца назаўсёды чулым, разумным, сціплым і мужным чалавекам. Вершы Яўгеніі Пфляўмбаўм увойдуць у "залаты фонд" беларускай паэзіі, а яе светлая асоба будзе жыць у нашай памяці.

**САЮЗ БЕЛАРУСКІХ ПІСЬМЕННІКАЎ**

# КЛАНЯЮСЯ НІЗКА...

Апошнім часам амаль кожны званок з Дома літаратара прыносіць горкую вестку. Страта за стратай...

Як ціхая сасонка, звалілася Яўгенія Пфляўмбаўм.

Жэня... Гэтым ласкавым імем назвалі Максіма Танка, Жэню Янішчыц...

У Жэні Лужанінай, як мы яе прывыклі называць, была глыбокая паэтычная натура, тонкае разуменне людзей. Была інтэлігентнасць у поўным сэнсе гэтага слова.

Бачу яе жывую... То засмучоную, то ўсмешлівую. У нашых Каралішчавічах, і на берагах Гаграў і Юрмалы. Згадваю, як цёпла ўспрымалі яе тонкія разважанні аб паэзіі Міхаіл Святлоў і нашы шчырыя латышскія сябры Юлій і Мілда Ванагі. Яны яшчэ не ведалі аб тым, што яна даўно піша вершы, выдатныя вершы, адзначаныя высокім талентам, і пэўна былі б шчаслівыя, калі б прачыталі кнігу яе жыцця — выбранае Яўгеніі Пфляўмбаўм, і зусім новыя вершы, у якіх жыве паэзія глыбокай жаночай душы.

Зусім нядаўна, напярэдадні Новага года, аб яе вершах сказала ў "ЛіМе" добрае, праўдзівае слова Алена Васілевіч.

Ці змагла гэта прачытаць цяжкахворая Жэня? Сама ж яна, бывала, мела неабходнасць адгукнуцца на тое, што яе ўсхвалявала.

Дзякуй Вам, Жэня, за тое, што Вы з любоўю дарылі людзям Беларусі.

Кланяюся нізка Вашай светлай памяці!

**Эдзі АГНЯЦВЕТ**

# ЕЛЬЦЫН РАСПЛАЧВАЕЦЦА ЗА ГАЛОЎНУЮ СВАЮ ПАМЫЛКУ

*(Працяг. Пачатак на стар. 13)*

Так і атрымліваецца, што адны мы гэтакія смелыя і безаглядныя. Наша дэмакратыя — нованароджанае цяля, яно яшчэ толькі спрабуе стаць на кволыя, тоненькія ножкі-дубчыкі. Між тым мы шырокім жэстам дазваляем прывольна жыць і пажываць каму заўгодна — крайнім нацыяналістам, расістам, фашыстам... І, само сабою, камуністам. Вось мы якія! Анікога не баімся! Аніхто нам не страшны! Што для немца капут, рускаму — здорава! А ці так яно?

Азірнёмся наўкола. Чарговы раз павучымся розуму ў таго, хто яго мае. Экстрэмісцкія арганізацыі карыстаюцца дэмакратычнымі правамі галоўным чынам там, дзе яны маюць нікчэмны ўплыў — падтрымку лічаных працэнтаў ці нават доляў працэнта насельніцтва. І дзе яны паводзяць сябе ціха, нячутна. У гэтых краінах такія спакойныя адносіны да ўсялякага роду палітычных буянаў сапраўды быццам бы заклікання дэманстраваць паўнату дэмакратычнага ландшафту, яны быццам бы сведчаць: глядзіце, у нас аднолькавыя адносіны да ўсіх, без аніякага выключэння.

Але ці нам станавіцца сёння ў шэраг такіх краін? Мы ж і блізка да іх не належым.

У тых жа самых сацыяльна спакойных дзяржавах, як толькі ўплыў экстрэмістаў узрастае альбо яны пачынаюць учыняць розныя шумавыя эфекты, адразу ж прымаюцца неадкладныя меры па іх стрыножванні. А як жа інакш? Мы ж, як выяўляецца, зноў гатовыя пакорліва ісці насустрач свайму лёсу, праяўляць поўную ціхмянасць перад тым, што лічым непераадольным рокам. І пры гэтым мудра разважаць і філасофстваваць.

Здзівіў мяне Ягор Цімуравіч Гайдар, які ў сваёй нядаўняй гутарцы са мной (яна надрукавана ў "ЛГ", N 49 за 1995 год) выказаў смелы прагноз, што вось, маўляў, нават калі камуністы прыйдуць да ўлады, доўга яны не ўтрымаюцца. Дэмакратыя ў Расіі ўсё адно пераможа. Агаварыўся, праўда: "Іншая рэч, колькі гэта будзе яшчэ каштаваць нашай краіне".

А й праўда, колькі будзе каштаваць краіне чарговы камуністычны эксперымент? Ці застанецца пасля яго хоць што-небудзь ад краіны?

Мяркую, у згаданым прагнозе Гайдар-вучоны ўзяў верх над Гайдарам-палітыкам, Гайдарам-патрыётам — тым самым, які позняй вечарам 3 кастрычніка 1993 года заклікаў нас па тэлебачанні да Масавета, каб абараніць расійскую дэмакратыю ад чырвона-карычневай чумы.

Па-мойму, аніякіх бясстрасна прагназтычных "калі" ў нашых варунках быць не павінна. КАМУНІСТЫ НЕ ПАВІННЫ ПРАРВАЦЦА ДА ЎЛАДЫ.

## УСЁ ЯШЧЭ НАПЕРАДЗЕ

Сама па сабе перамога бальшавікоў на выбарах у Думу — гэта, вядома, яшчэ не катастрофа. Які б ні быў расклад сіл у новым думскім складзе — канстытуцыйныя паўнамоцтвы ніжняй палаты парламента, як вядома, досыць абмежаваныя.

Небяспека тоіцца ў іншым. Вынікі мінулых думскіх выбараў, як вядома, моцна паўплывалі на агульную сітуацыю ў краіне, хоць ужо тады было зразумела, што сама па сабе Дума мала на што здатная. У прыватнасці, пад уплывам гэтых вынікаў Ельцын адхіснуўся ад дэмакратаў, а ўрад "матлянуўся ў бок фінансавай безадказнасці", вынікам чаго сталі вядомыя падзеі: рэзкае падзенне курсу рубля, велізарная інфляцыйная хваля восені і зімы 1994—1995 гадоў, рэзкае зніжэнне жыццёвага ўзроўню...

Эфект ад цяперашніх выбараў можа быць яшчэ больш прыкметны, бо яны прайшлі напярэдадні выбараў прэзідэнцкіх. У такой сітуацыі пракамуністычны трыумф — благі знак. Ён надае сілы бальшавіцкім фанатыкам, развarочвае ў адпаведны бок тых, што вагаюцца. Уносіць сумяціцу і разгубленасць у шэрагі тых, што прывыклі трымаць нос па ветры. У тым ліку і ва ўладных кабінетах. У тым ліку і ў друку (ганебна было глядзець, як у гэтыя дні прадстаўнікі "свабоднага друку", радыё, тэлебачання хараводзіліся вакол Зюганава і іжэ з ім, з якім лёкайскім запабяганнем задавалі ім "зручныя" пытанні, як стараліся даказаць усяму свету, што гэтыя "пралетарыялюбцы" — "з чалавечым тварам").

Вось у чым галоўная небяспека гэтага трыумфу. Вось чаму яго нельга было дапускаць.

**Алег МАРОЗ**

*("Литературная газета", 20. XII. 95, N 51 (5582)*

